



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

27 лістапада 2020 года №48 (1335) 18+


# Абіраем «Асобу года-2020»

старонка 21

## Якая сітуацыя з каронавірусам на Вілейшчыне і чаму медыкі не называюць лічбы хворых і памерлых

старонка 2

## Ці праўда, што Вілейцы 560 год?

старонка 17

## Пайшоў з жыцця сябар «РГ», віляйчанін Анатоль Капцюг

старонка 5







ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by






Фота Настассі УТКІНАЙ.

Медыкі адзначаюць: другая хваля каронавіруса больш цяжкая, чым першая.

# У пачатку лістапада на Вілейшчыне быў бурны рост каронавіруса

## Галоўны доктар ЦРБ расказала пра сітуацыю з COVID-19

**Артыкул хацелася б пачаць з лічбаў захварэлых і памерлых ад каронавіруса на Вілейшчыне. Аднак такія лічбы дактары называць не ўпаўнаважаныя, адзначыла галоўны доктар Вілейскай ЦРБ Ірына Макарава. Няма дазволу Міністэрства аховы здароўя.**

ВІЛЕЙКА

Па словах Ірыны Паўлаўны, бурны рост інфекцыі, які быў у пачатку лістапада на Вілейшчыне, цяпер запаволіўся.

– Магчыма, ад таго, што людзі пачалі насіць маскі. За апошнія два тыдні зрабілі для сябе нейкія высновы. І гэта займела станоўчы вынік, – мяркуе галоўны доктар.

Як заўважаюць вілейскія медыкі, другая хваля каронавіруса больш цяжкая, чым першая. Калі раней часцей хварэлі людзі 70-80 год, цяпер вірус не шкадуе пацыентаў працаздольнага ўзросту. Маладзейшыя людзі хварэюць цяжэй, іх імунітэт рэагуе бурна, лячыць такіх пацыентаў медыкам нялёгка.

Па словах суразмоўцы, у Вілейскай ЦРБ на сёння працуюць два інфекцыйныя аддзяленні. Месцаў для хворых хапае. Нават ляжаць дзевяць пацыентаў з каронавірусам і пнеўманіямі з іншых гарадоў.

Калі чалавек хварэе ў лёгкай форме або з'яўляецца носьбітам COVID-19, ён лечыцца і назіраецца дома. За ім назірае спецыяльная кантактная група медыкаў. Калі ж ступень хваробы сярэдняя або цяжкая, пацыента шпіталізуюць.

– Здараюцца выпадкі, калі хворыя не звяртаюцца да медыкаў, займаюцца самалячэннем. У выніку даходзіць да таго, што «хуткая» з дому вязе хворага адразу ў рэанімацыю. Таму яшчэ раз хочацца звярнуць увагу чытачоў на тое, каб не лячыліся самі, ішлі да доктара. COVID-19 – вірус, які паводзіць сябе непрадказальна, – адзначыла Ірына Паўлаўна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Удзельнікі акцыі з вынікамі сваёй працы.

# Сабралі больш за 30 кілаграмаў смецця з берагоў ракі

МАЛАДЗЕЧНА

**Існуе англійская прыказка: «Не выхоўвайце дзяцей, усё роўна яны будуць падобныя да вас. Выхоўвайце сябе». Гэта прыказка падышла для правядзення конкурсу ініцыятыў «Смеццевы аўдыт», прапанаванага арганізацыяй «Жывое партнёрства», у Радашкавіцкай сярэдняй школе.**

10 кастрычніка ў школе сабралі валанцёрскую групу дзяцей і дарослых. 15 чалавек прыбралі берагі мясцовай ракі Гуйкі.

> Смецце пасартавалі і вывучылі па галандскай методыцы, старанна прааналізавалі, узважылі і падрыхтавалі для другаснай перапрацоўкі.

Але мы не толькі сабралі і даследавалі смецце. Яшчэ вывучылі, як мікрапластык забруджвае вадаёмы і чаму гэта негатыўна адбіваецца не толькі на мясцовай флоры і фаўне, але і на чалавеку. Кожны ўдзельнік акцыі атрымаў буклет пра смецце.

### Што сабралі з берагоў ракі

Пасля прыборкі ўдзельнікі запоўнілі спецыяльную форму.

> Згодна з ёй, сярод смецця, сабранага з берагоў ракі, былі бляшанкі, пластыкавыя бутэлькі ад напояў і гігіенічных сродкаў, пакеты, упакоўкі ад харчовых прадуктаў, вільготныя сурвэткі, аднаразовы посуд, будаўнічыя пальчаткі, акуркі, пара гумовых ботаў і рашотка для грыля.

Вага смецця склала 34 кілаграмы.

### Такія небяспечныя вільготныя сурвэткі

Сэнс аўдыту ў тым, каб зразумець, наколькі небяспечнае для навакольнага асяроддзя пакінутае смецце. Большая частка рэчаў, якія сёння аказваюцца выкінутымі ў месцах адпачынку, зробленая з палімерных матэрыялаў, гэта значыць, уяўляе розныя віды пластыку.

Курцы кідаюць акуркі на зямлю і думаюць, што тыя хутка перагніюць.

> Але цыгарэтныя фільтры ўтрымліваюць пластык і не раскладаюцца мікраарганізмамі.

Такім чынам, акуркі – крыніца мікрапластыку, які забруджвае рэкі, моры і акіяны. Тое ж самае можна сказаць пра вільготныя сурвэткі. У адрозненне ад туалетнай паперы, яны доўгі час не раскладаюцца, а паступова распадаюцца на дробныя часцінкі таго ж пластыку. Важна не пакінуць гэта «дробнае» смецце, а прыбраць яго разам з пакінутым аднаразовым посудам, бутэлькамі, пакетамі і іншымі адходамі.

### Знайшлі фасфаты і нітраты ў рацэ

Таксама мы правялі хімічны аналіз вады. Аказалася, у водах ракі ёсць фасфаты і нітраты. Гэта значыць, што вада забруджаная арганічным смеццем, якое вядзе да гніення. А гэты працэс забірае кісларод, які так важны насельнікам вадаёмаў.

> Падчас акцыі дзеці і дарослыя зразумелі: прыбіраць смецце за іншымі не сорамна. Сорамна, яго пакідаць.

А наперадзе ў нас – даследаванне і ліквідацыя прычын забруджвання і стварэнне экалагічнай сцяжыны.

**Таццяна АЛЯШКЕВІЧ,**
**настаўніца хіміі і біялогіі Радашкавіцкай сярэдняй школы.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**31**

столькі ўніверсітэтаў працуе ў Беларусі.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.11 | 26.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5528 | **2.5600** |
| Еўра | 3.0319 | **3.0438** |
| Злоты, 10 | 6.7835 | **6.8171** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3610 | **3.3894** |
| Грыўня, 100 | 9.0737 | **9.0188** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **18.11** | **25.11** |
| Еўра | 2.9800/3.0800 | **2.9800/3.0800** |
| Долар ЗША | 2.5000/2.5900 | **2.5000/2.5900** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | **18.11** | **25.11** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,88 | **19,88** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,78 | **7,78** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **5,80** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,80 | **17,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,50 | **3,40** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 2,90 | **4,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,35 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,80 | **1,70** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 2,90 | **4,30** |
| Перац, 1 кг | 4,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 5,30 | **4,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **4,30** |
| Нектарыны, 1 кг | – | **–** |
| Хурма, 1 кг | 3,30 | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## У аварыі загінула 40-гадовая жанчына-кіроўца

**ВІЛЕЙКА**

ДТЗ адбылося 18 лістапада пасля шасці гадзін раніцы на 27 кіламетры аўтадарогі Маладзечна-Ілья. Паводле папярэдняй інфармацыі, 40-гадовая жыхарка Вілейшчыны абрала неадпаведную надвор'ю і дарожным умовам хуткасць, у выніку чаго «Рэно» занесла.

Аўтамабіль перакуліўся, кіроўца загінула на месцы. Пасажыры – муж і двое сыноў кіроўцы – не пацярпелі.

**На адным пярэднім коле была летняя шына.**

Цяпер на месцы здарэння працуюць супрацоўнікі ДАІ, следчыя і эксперты. Устанаўліваюцца прычыны здарэння.

**Паводле МУС.**

## Маладзечанцаў падманваюць ілжэработнікі банка

**МАЛАДЗЕЧНА**

На мінулым тыдні пенсіянерцы з Маладзечна патэлефанавалі невядомыя і прадставіліся супрацоўнікамі службы бяспекі фінансавай установы. Прыстрашыўшы жанчыну «ліпавымі» грашовымі аперацыямі і тым, што яна можа пазбавіцца ўсіх сваіх назапашванняў. Каб пазбегнуць несанкцыянаванага спісання грошай, пацярпелая назвала рэквізіты банкаўскай карты, паведаміла коды з смс-паведамленняў. Пасля гэтага з рахунку знікла буйная сума грошай – 1 690 рублёў. Па дапамогу жанчына звярнулася ў міліцыю, цяпер міліцыянеры шукаюць фігурантаў.

Ад пачатку месяца жыхары Маладзечна страцілі каля 10 000 рублёў пасля тэлефонных размоў з ілжэработнікамі банкаў. Пры гэтым для сувязі з патэнцыяльнымі ахвярамі зламыснікі нібыта ад імя Асацыяцыі беларускіх банкаў усё часцей сталі выкарыстоўваць мэсенджар Viber. За апошнія тры тыдні колькасць падманутых маладзечанцаў дасягнула лічбы 16.

Міліцыя нагадвае, што сапраўдныя банкаўскія супрацоўнікі не стануць высвятляць па тэлефоне персанальныя дадзеныя карты.

Акрамя таго, паведамляць трэцім асобам канфідэнцыйную інфармацыю аб сваёй карце, а менавіта PIN-код, нумар карты, тэрмін дзеяння, SMS-коды, лагін і пароль ад інтэрнэт-банка, катэгарычна забаронена.

Таксама рэзка ўзрасла колькасць крадзяжоў у дачыненні да інтэрнэт-прадаўцоў на гандлёвых пляцоўках. 33-гадовая жыхарка Маладзечна размясціла на сайце аб'яву аб продажы канструктара Lego за 350 беларускіх рублёў. На прапанову адгукнулася нейкая Святлана, якая ў мэсенджар WhatsApp з расійскага нумара напісала жанчыне, што гатовая купіць у яе тавар. Са слоў пацярпелай, маладзечанцы прыйшло паведамленне са спасылкай на старонку інтэрнэт-даставак. Яна прайшла па спасылцы і ўвяла ўсе неабходныя дадзеныя, тым самым даўшы махлярам доступ да карт-рахунку. Жанчыне прыйшло паведамленне, што ў інтэрнэт-банкінг увайшлі з невядомай прылады – ашуканцы паспелі скрасці крыху больш за 861 рубель.

У Маладзечанскім РАУС падобных фактаў за лістапад зафіксавана сем. Праваахоўнікі праводзяць аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы па высвятленні асоб зламыснікаў. Як паказвае практыка, знайсці іх цяжка.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Страціла 2 650 рублёў з карткі, бо паверыла махляру

**ВІЛЕЙКА**

19 лістапада ў міліцыю Вілейкі звярнулася гараджанка і паведаміла пра тое, што з яе карткі знікла 2 650 рублёў.

На месцы міліцыянеры ўстанавілі, што 19 лістапада ад 18:17 да 18:39 невядомы напісаў пацярпелай у вайберы. Ён прадставіўся работнікам «Беларусбанка». Падчас перапіскі атрымаў неабходныя рэквізіты дзвюх плацежных картак банка і коды, якія трэба ўводзіць для пацвярджэння аперацый.

**Пасля гэтых маніпуляцый з картак зніклі ўсе грошы.**

Узбудзілі крымінальную справу па частцы 2 артыкула 212 Крымінальнага кодэкса, расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае Дыянай ГАЛУЗАЙ.

На месцы здарэння.

# Перакулілася машына. Загінуў пасажыр

## Кіроўца быў нецвярозы

**Аварыя здарылася ў Маладзечанскім раёне ноччу на 22 лістапада, паведаміла інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна Дыяна Галуза.**

**МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН**

Здарэнне адбылося на аўтадарозе Літва-Шыпулічы. З боку Шыпулічаў у бок Беразінскага ехаў аўтамабіль «Пежо-306», якім кіраваў 38-гадовы жыхар вёскі Дубіна Валожынскага раёна.

Па папярэдняй інфармацыі, кіроўца «Пежо» не справіўся з кіраваннем, з'ехаў на левую па ходу руху ўзбочыну, наехаў на плот дома №88 у вёсцы Парэчча, і машына перакулілася. У выніку на месцы аварыі загінуў 58-гадовы пасажыр, жыхар вёскі Парэчча. Кіроўцу змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання, узбудзілі крымінальную справу.

Па папярэдняй інфармацыі, кіроўца быў нецвярозы, пасажыр – не прышпілены.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчына выпіў і вырашыў пакатацца на мотаблоку

**СМАРГОНЬ**

У Смаргонскім раёне мясцовы 34-гадовы жыхар выпіў спіртнога і вырашыў праехацца на сямейным мотаблоку.

У гаражы, дзе стаяла тэхніка, п'янага сына ўбачыў бацька. Мужчына забараніў сыну садзіцца нецвярозым за руль. Ну што той узяў у рукі вілы і загадаў бацьку не ўмешвацца ў сітуацыю.

Як толькі п'яны кіроўца выехаў з двара, яго бацька звярнуўся ў міліцыю.

Ніхто не пацярпеў, а нецвярозага кіроўцу пакараюць за п'яную язду і ўгон матаблока.

**Паводле УУС Гродна.**

## Аўтамабіль зляцеў з дарогі і ўрэзаўся ў трубу

**АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ**

Жыхар Ашмянаў з'ехаў з дарогі ў кювет, дзе ўрэзаўся ў трубу меліярацыйнага канала.

Як паведамілі ў аддзяленні ДАІ, дарожна-транспартнае здарэнне адбылося ў суботу, 21 лістапада, каля паловы пятай вечара.

35-гадовы мужчына ехаў на аўтамабілі «Аўдзі» ў кірунку Ашмянаў.

**На 23-м кіламетры аўтадарогі Газа – Астравец – Ашмяны ён не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у правы кювет і ўрэзаўся ў трубу.**

У выніку сутыкнення ашмянец атрымаў цялесныя пашкоджанні і быў шпіталізаваны ў Астравецкую цэнтральную раённую клінічную бальніцу.

**Фота ostrovets.by.**

## Каля аграсядзібы невядомы скраў рухавік з лодкі

**ВІЛЕЙКА**

У нядзелю ў РАУС Вілейкі звярнуўся жыхар вёскі Ярмолічы Вязынскага сельсавета. Мужчына паведаміў, што ноччу нехта скраў бензінавы рухавік з лодкі.

**Як высветлілася, лодка стаяла недалёка ад аграсядзібы на вадзе Вілейскага вадасховішча, прыкладна за метр ад берага.**

У перыяд ад 15:00 21 лістапада да 11:30 22 лістапада невядомы скраў рухавік Tohatsu, які каштуе дзве тысячы рублёў.

Узбудзілі крымінальную справу па частцы 1 артыкула 205 Крымінальнага кодэкса. Вілейскі РАУС шукае фігуранта, расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Знайшлі труп мужчыны, які знік 21 лістапада

**МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА**

Пра гэта карэспандэнту расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС Мікалай Мягкоў.

Мужчына, жыхар вёскі Клоўсі, знік 21 лістапада. Яго шукала Вілейская міліцыя.

– Зніклага знайшлі 24 лістапада, увечары, – расказаў Мікалай Мягкоў. – Ён памёр. Цела без бачных прыкмет крымінальнай смерці знайшлі на ўездзе ў Маладзечна. Для ўстанаўлення прычыны смерці праводзяць экспертызу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Анатоль Капцюг на святкаванні 20-годдзя «Рэгіянальнай газеты» ў 2015 годзе ў будынку Вілейскага краязнаўчага музея.

# Пайшоў з жыцця сябар «РГ», віляйчанін Анатоль Капцюг

**Анатоля Капцюга не стала ноччу 23 лістапада. У аўторак, 24 лістапада, блізкія развіталіся з архітэктарам, мастаком і краязнаўцам.**

Анатоль Іванавіч быў сябрам і аўтарам «Рэгіянальнай газеты». Ён вёў праект «Школка дзядзькі Капцюга», дзе дзяліўся каштоўнымі ведамі па беларускай этнаграфіі.

Навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава** кажа пра Анатоля Іванавіча:

– Гэта быў не проста чалавек, а Асоба. Цяжка казаць пра яго ў мінулым часе, таму што гэта вялікая страта. Анатоль Іванавіч быў прафесіяналам сваёй справы, які вельмі любіў Вілейку і Вілейшчыну. Ён ніколі не дзяліў людзей па пасадзе, веравызнанні. Рабіў праекты як для каталіцкіх збудаванняў, так і праваслаўных. Любіў усіх, і яго ўсе любілі. Галоўнае, што цаню ў людзях – прыстойнасць. Заўсёды шчыра казаў усё людзям у вочы. Я яму раней казала, што ён сябе ўвекавечыў пры жыцці. Ідзеш па горадзе і бачыш вакол аб'екты, якія рабіў ён. Яны заўсёды будуць нагадваць пра Капцюга. Мы помнім Анатоля Іванавіча і смуткуем.

### Архітэктар, мастак, краязнаўца

Анатоль Капцюг нарадзіўся ў 1952 годзе на Новы год, пайшоў з жыцця 23 лістапада 2020. Пахавалі ва Урэччы на Вілейшчыне на родавых могілках, дзе знайшлі спачын продкі.

Бацька, Іван Рыгоравіч, працаваў будаўніком, маці, Вера Паўлаўна, – закройшчыцай і швачкай. Адзіны сын у сям'і, дзяцінства прайшло ва Урэччы.

У 1977 годзе скончыў архітэктурны факультэт БПІ, у 1985 годзе павышаў кваліфікацыю ў Маскоўскім архітэктурным інстытуце.

Ад 1977 да 2002 года жыў у Гродне і працаваў на розных пасадах – ад архітэктара да кіраўніка групы архітэктараў абласнога праектнага інстытута «Гроднаграмадзянпраект», працаваў кіраўніком творчай майстэрні архітэктараў пры Саюзе архітэктараў СССР, кіраўнік праектаў рэстаўрацыі праектнага інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя», архітэктарам-мастаком мастацкай майстэрні Беларускага саюза мастакоў, мастаком-афарміцелем Вілейскага краязнаўчага музея. Быў сябрам Саюза архітэктараў ССР, Беларускага саюза архітэктараў.

**Анатоль Капцюг распрацаваў як асабіста, так і ў складзе калектываў больш за 50 праектаў жылых, грамадскіх і культавых будынкаў, генпланаў мікрараёнаў, аб'ектаў добраўпарадкавання, малых форм архітэктуры.**

У 1986 годзе браў удзел у распрацоўцы генпланаў пасёлкаў у Гомельскай вобласці для перасяленцаў пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сярод яго праектаў: першы ў Беларусі 12-павярховы жылы дом з сілікатных панэляў у 1982 годзе ў Гродне, 14-павярховы інтэрнат з блокам абслугоўвання ў Гродне, комплекс 7-9-павярховых дамоў у Слоніме, аддзяленне банка ў Наваградку, добраўпарадкаванне санаторыя «Беларусь» у Друскеніках, рэстаўрацыя фасадаў помніка архітэктуры 16 стагоддзя царквы Барыса і Глеба ў Наваградку, добраўпарадкаванне царквы Святой Вольгі і вадасвятнай капліцы Пакроўскага сабора ў Гродне. Памятны знак воінам Заходняга фронту, што загінулі ў Навагрудскім катле, капліца ў гонар 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова ў Вілейцы, капліца Святых Барыса і Глеба ў Вілейцы, мемарыяльны комплекс «Памяці зніклых вёсак» у Вілейскім раёне.

Аўтар памятных дошак Ігнату Ходзьку і Пятру Машэраву ў Вілейцы, Піліпу Орліку ў Касуце, Нікадзіму Сілівановічу ў Цынцавічах, Льву Альпяровічу ў Куранцы, паўстанцам 1863 года ў Каралеўцах. Спраектаваў кафэ «Цяністыя алеі» з рэканструкцыяй фантана, рэканструяваў цэнтральную плошчу Вілейкі і фантан на ёй, удзяляў увагу ў іншых архітэктурных і мастацкіх праектах.

Менавіта Анатоль Капцюг разам з **Наталляй Яфімавай** даказалі, што ўкраінскі і расійскі першадрукар Іван Фёдараў нарадзіўся на Вілейшчыне.

У Анатоля Капцюга засталася жонка **Таццяна** і дачка **Вольга**. Калектыў рэдакцыі выказвае шчырыя спачуванні блізкім Анатоля Капцюга. Смуткуем разам з вамі.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Матэрыял падрыхтаваны ў тым ліку на аснове інтэрв'ю Аляксея Лужынскага ў выданні «Волат» №1 за 2011 год і публікацыі ў «Рэгіянальнай газеце» «Размова з дзядзькам Капцюгом» у 2009 годзе. Анатоль Іванавіч сам папрасіў гадоў пяць таму, каб на развітанне з ім скарысталі гэтыя публікацыі.**

## Некалькі цытат з інтэрв'ю Анатоля Капцюга

1. Не раз заўважаў: як толькі вілейскі чалавек малюе, то звярніся да яго радаводу і абавязкова знойдзеш сіліванавіцкія карані. Гэта ўжо нешта на генным узроўні.

2. І што галоўнае: будынкі ведаюць, архітэктараў – не. Выйдзіце на вуліцу і спытайцеся ў людзей, хто спраектаваў, напрыклад, Нацыянальную бібліятэку. Вам наўрад ці адкажуць. Такі вось у нас лёс.

3. Вельмі люблю, калі зробленае жыве. Неяк расказалі, што ў фантане, які праектаваў, моладзь ахалоджвае піва. Думаеце мяне гэта абурыла? Наадварот. Во, падумалася, не толькі фантан зрабіў, але і халадзільнік.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |



Фота з Вікіпедыі.

Чыгуначны вакзал у Вільні.

# Беларусы з'язджаюць у Літву, журналістаў падазраюць па крыміналцы

## Што адбывалася на гэтым тыдні ў Беларусі і свеце

**Прапануем агляд значных падзей за апошні тыдзень у свеце і ў Беларусі.**

### У Літву з гуманітарных прычын дазволілі ўехаць звыш 600 беларусам

У Літву з асаблівых гуманітарных прычын дазволена прыбыць 653 беларускім грамадзянам. З гэтых асоб 246 ужо ў Літве, 53 папрасілі прытулак. Дазволы выдаюцца пацярпелым ад рэжыму і рэпрэсій грамадзянам Беларусі, актыўным прадстаўнікам апазіцыі.

«Пратэсты ў Беларусі не супакойваюцца ўжо чатыры месяцы, усё больш людзей хочуць прыбыць у Літву, і расце колькасць тых, хто просіць прытулак. Мы пастаянна забяспечваем зладжаны працэс выдачы дазволаў з тым, каб у людзей не было перашкод прыбыць туды, дзе яны пачуваюцца ў большай бяспецы», – адзначыла в. а. міністра ўнутраных спраў **Рыта Тамашунене**.

### Оксфардскі слоўнік не выбраў слова года. Але адзначыў прыметнік «беларускі»

Оксфардскі слоўнік не змог выбраць галоўнае слова 2020 года. Замест гэтага апублікавалі шэраг паняццяў, якія найбольш поўна апісваюць гэты час. Сярод такіх паняццяў – «каронавірус» і іншыя, звязаныя з пандэміяй COVID-19 паняцці («сацыяльнае дыстанцыяванне», «лакдаўн», «аднаўленне»), а таксама словы «імпічмент», «лясны пажар».

Адзначаны быў таксама прыметнік «беларускі», як звязаны з выбарамі ў жніўні.

### Журналістка Tut.by – у СІЗА КДБ

Вечарам 19 лістапада журналістку Tut.by **Кацярыну Барысевіч** затрымалі супрацоўнікі ў цывільным і ў масках, якія пасляператрусу ў кватэры павезлі яе ў невядомым кірунку. Крыху пазней Кацярына паведаміла дачцэ і калегам, што яна ў СІЗА КДБ. 20 лістапада адбыўся першы допыт. Як вядома з паведамленняў Генпракуратуры, пачалі крымінальную справу па факце выдавання ўрачэбнай тайны. Гаворка ідзе пра стан загінулага **Рамана Бандарэнкі**. Кацярына была аўтарам артыкула, дзе ўказвалася, што ў яго крыві не было алкаголю.

Генеральная пракуратура распачала крымінальную справу ў дачыненні да доктара бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі і іншай асобы на падставе часткі 3 артыкула 178 КК – выдаванне медыцынскай таямніцы, якое пацягнула цяжкія наступствы. Злачынства караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да трох гадоў са штрафам і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю або без пазбаўлення.

### Журналістка «Белсата» – падазраваная па крымінальнай справе

Журналістцы **Кацярыне Андрэевай** 20 лістапада выставілі абвінавачанне па часткі 1 артыкула 342 КК – арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак. Кацярыну затрымалі 15 лістапада, калі вяла стрым для «Белсата» з разгону «плошчы Перамен».

У кватэру, дзе была журналістка разам з аператарам, уварваліся супрацоўнікі АМАПа. Праз нейкі час Андрэева знайшлася на Акрэсціна, ёй прысудзілі адміністрацыйны арышт у сем сутак. Аднак ужо ў пятніцу стала вядома, што супраць журналісткі распачалі крымінальную справу. Цяпер яе перавядуць у СІЗА Жодзіна.

24 лістапада на сувязь перастаў выходзіць муж Кацярыны – журналіст **Ігар Ільяш**. Ноччу ён знайшоўся на Акрэсціна.

### Лукашэнка назваў нацыянальны сцяг фашысцкай сімволікай

«Я ж не хаджу пад фашысцкімі БЧБ-сцягамі. І адкрыта гавару, што гэта фашысцкая сімволіка. І хто ўнёс гэта пытанне на рэферэндум – ваш пакорны слуга, калі ў нас былі БЧБ-сцягі, якія нацыяналісты праціснулі, – заўважыў ён падчас выступлення на «Гомсельмашы». – Я катэгарычна пярэчыў. Але выбралі, я стаў прэзідэнтам і імгненна ўнёс вам на рэферэндум: вырашыце, вось – адна сімволіка, вось – другая. Пераважная большасць падтрымала цяперашнюю дзяржаўную сімволіку. Якія да мяне пытанні?».

### СААЗ папярэдзіла пра пагрозу трэцяй хвалі COVID-19 у Еўропе

Спецыяльны пасланнік Сусветнай арганізацыі аховы здароўя **Дэвід Набара** ў інтэрв'ю выданням швейцарскай медыякампаніі CH Media папярэдзіў аб небяспецы трэцяй хвалі каронавіруса ў Еўропе ў пачатку 2021 года.

Па словах Набара, еўрапейскія краіны не здолелі прадухіліць другую хвалю каронавіруса пасля таго, як ім удалося ўзяць пад кантроль першую.

«Еўрапейская рэакцыя была няпоўнай. Яны ўпусцілі магчымасць пабудаваць неабходную інфраструктуру ў летнія месяцы пасля таго, як узялі пад кантроль першую хвалю. А зараз у іх другая хваля. Калі яны не пабудуюць неабходную інфраструктуру цяпер, у іх будзе трэцяя хваля ў пачатку наступнага года», – сказаў Набара.

**Паводле Нашай Ніվы, tut.by, Пул Першага.**

## Сацыяльная пякарня, праца для людзей з інваліднасцю, роварны рух. Якія ініцыятывы падтрымае ЕС ПРААН

МАЛАДЗЕЧНА

Пераможцамі ў конкурсе прадпрымальніцкіх ініцыятыў, які праводзіўся ў 12 пілотных раёнах праекта ЕС ПРААН «Падтрымка эканамічнага развіцця на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь», сталі аб'яднанні з рэгіёна, паведамляюць у Мінаблвыканкаме.

Вось гэтыя ініцыятывы:

- ГА «ЗОВіК» з ініцыятывай пашырыць выкарыстанне ровара як экалагічнага сродку руху і стварыць у Маладзечанскім раёне новыя працоўныя месцы, у тым ліку для людзей з інваліднасцю або тых, хто вярнуўся з месцаў пазбаўлення волі.
- Грамадская арганізацыя «Хрысціянская садружнасць дарослых і маладых» з ініцыятывай «Першая праца», ідэя якой – рашэнне праблемы занятасці і інтэграцыі на рынку працы прадстаўнікоў уразлівых катэгорый насельніцтва Маладзечанскага раёна, маладых спецыялістаў, маладых людзей з парушэннем мовы і слыху праз досвед першай працы.
- Фонд па спрыянні інклюзіўнасці людзей з абмежаванымі магчымасцямі «У Савы» (сацыяльная пякарня «Добрае печыва») з ідэяй стварэння ў Маладзечне першай сацыяльнай пякарні, якая забяспечыць сацыяльную адаптацыю, навучанне, занятасць людзей з ментальнай інваліднасцю.

**Аддзел інфармацыі.**

## У ЦРБ з'явіўся ангіяграфічны кабінет

МАЛАДЗЕЧНА

Абяцаюць, што ў новым кабінеце прымуць пацыентаў не толькі з Маладзечанскага раёна, а таксама з Вілейшчыны, Валожыншчыны, Мядзельшчыны.

**Дэталёвыя выявы артэрый і крывацёку дазволяць заўважаць цяжкія сардэчна-сасудзістыя захворванні на ранніх этапах.**

У экстранных сітуацыях тут жа аказваецца спецыялізаваная медыцынская дапамога – можна пазбегнуць развіцця інфаркту міякарда.

На комплексе таксама выдаляюць тромбы інвазіўным метадам – без хірургічнага ўмяшання.

**Паводле tvr.by.**

## У гаспадарцы «Новая Любанія» – новы кіраўнік

ВІЛЕЙКА

Цяпер сельскагаспадарчым прадпрыемствам «Новая Любанія», што ў аграгарадку Любань на Вілейшчыне, кіруе **Васіль Буракоўскі.**

Як расказалі ў Вілейскім райвыканкаме, Васіль Міхайлавіч да гэтага працаваў на вытворчым участку малаказавода, раней – у Маладзечанскім райаграсэрвісе.

Былы дырэктар **Юры Дуброўскі** звольніўся па пагадненні бакоў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Прапануюць паўдзельнічаць у конкурсе на лепшую цацку для ялінкі

ВІЛЕЙКА

Конкурс ладзіць аддзел па працы з дзецьмі Вілейскай раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік.

**Дзецям і бацькам прапануюць самастойна стварыць цацку для ялінкі.**

Цацка павінна быць не вышэй за 20 сантыметраў. Намінацыі – «Сімвал года», «Калядная цацка», «Крэатыўная цацка», «Цацка савецкага дзяцінства».

**Конкурс праводзяць ад 20 лістапада да 24 снежня.**

Аўтараў самых цікавых вырабаў чакаюць прызы, абяцаюць арганізатары.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Вольга Шляпо.

# Вілейчука адлічылі з медуніверсітэта за пратэсты, а пасля аднавілі

## Што думае пра гэта яго мама, старшыня вілейскіх прафсаюзаў

**У пачатку лістапада Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт адлічыў некалькі сваіх студэнтаў за ўдзел у пратэстах. У хуткім часе некаторых аднавілі. Сярод адлічаных і аднаўленых быў віляйчук, выпускнік гімназіі «Логас», другакурснік педыятрычнага факультэта Ян Шляпо.**

ВІЛЕЙКА

Мама Яна – публічная асоба ў Вілейцы. **Вольга Шляпо** – старшыня вілейскіх прафсаюзаў, памочнік дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі **Ірыны Супрановіч**, арганізатар шматлікіх моладзевых конкурсаў і праектаў у Вілейцы.

На працягу некалькіх месяцаў Вольга не хавае сваю палітычную пазіцыю. Яна падтрымлівае існуючую ўладу. У ліпені размясціла на сваёй старонцы ў сацсетках сумесны фотаздымак з прэс-сакратаром Аляксандра Лукашэнкі **Наталляй Эйсмант**. «Сустрэча з Наталляй Эйсмант, прэс-сакратаром Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, для мяне – падзея. Адчула яе харызму, сапраўдны прэс-сакратар – таленавітая, разумная, прыгожая, у кожным слове – сіла жыцця, упэўненасць», – напісала тады Вольга ў сваім пасце.

Мы звярнуліся да Вольгі Шляпо з прапановай выказаць адносіны да таго, што здарылася з яе сынам, і да таго, што адбываецца ў краіне.

**Вольга пагадзілася даць толькі пісьмовы каментар. Днямі мы атрымалі ліст. Прыводзім яго без змен.**

### Вольга: Не выключаю, што мною рухаюць матчыны пачуцці

*«Пагутарыўшы з некаторымі адлічанымі з медуніверсітэта студэнтамі, сярод якіх апынуўся і мой сын, я зразумела, што гэта моладзь шчыра мяркуе, што можа зрабіць свет больш дасканалым і справядлівым адразу, як па ўзмаху чароўнай палачкі. Для гэтага дастаткова ўсяго толькі зламаць існуючы парадак і ўклад у грамадстве і збудаваць новы. Гэта тыповыя імкненні маладосці.*

*Але я заўважыла таксама і тое, што шчырыя імкненні маладых людзей выкарыстоўваюць цынічныя прафесіяналы-агітатары, якія падштурхоўваюць студэнтаў да агрэсіі і парушэння законаў, надаючы гэтым дзеянням арэол ледзь не гераізму. Хутчэй за ўсё, тыя студэнты, якія ўдзельнічалі ў супрацьпраўных дзеяннях, сур'ёзнасці сваіх учынкаў не ўсведамлялі, успрымаючы тое, што адбываецца, як гульню.*

*Не выключаю, што мною рухаюць у асноўным нерацыянальныя меркаванні, а матчыны пачуцці. Але я перакананая, што такіх маладых людзей трэба не адштурхоўваць, а пераконваць, даўшы ім магчымасць стаць добрымі дактарамі, атрымаць прафесію.*

*Як аказалася, у выкладчыкаў і адміністрацыі ўніверсітэта пазіцыя такая ж. Не зважаючы на атмасферу правакаванага канфлікту, непрыязнага і нават агрэсіўнага стаўлення з боку некаторых студэнтаў і «незразумелых» іншых «груп падтрымкі», супрацоўнікі ўніверсітэта праводзілі гутаркі з адлічанымі студэнтамі, іх бацькамі, каб вярнуць студэнтаў да іх галоўнага на гэтым этапе жыцця занятку – да вучобы.*

*Важна адзначыць, што такіх парушальнікаў парадку вельмі мала. Абсалютная большасць студэнтаў займаецца тым, чым займалася заўсёды – мэтанакіравана вучацца і атрымліваюць радасці ад нармальнага студэнцкага жыцця.*

*На жаль, у наша грамадства цяпер спрабуюць унесці раскол. У некаторых выпадках лінія расколу праходзіць не толькі ў арганізацыях, але і сярод сяброў, у сем'ях. Я лічу, што людзі заўсёды павінны дамаўляцца на разумнай аснове, а не прад'яўляць адзін аднаму невыканальныя ўльтыматумы.*

*Шчыра кажучы, мая матчына мара аб тым, што мой сын стане прафесарам медыцыны і будзе таксама цярпліва тлумачыць гарачым студэнтам, што ў доктара асаблівы статус і асаблівая ўлада. Таму з доктара і попыт асаблівы – ён павінны быць вышэй за кан'юнктурныя палітычныя спрэчкі. Ратуючы здароўе і жыцці людзей, дактары прыносяць больш карысці грамадству, чым запраграмаваныя лозунгамі бунтары».*

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ



Фота gazeta.ru.

# «Перавал Дзятлава»

**Расійскі тэлесерыял у жанры гістарычнай драмы. Праект заснаваны на рэальных падзеях. Серыял складаецца з васьмі серый, прысвечаных гібелі турыстычнай групы Ігара Дзятлава ў пачатку 1959 года і расследаванню прычын таго, што адбылося.**

Стваральнікі серыяла – **Валер Федаровіч**, **Яўген Нікішоў**, **Ілля Кулікоў** – атрымалі доступ да матэрыялаў справы 1959 года, матэрыялаў даследаванняў 2000-х гадоў, а таксама дэталёва вывучылі дзённікі загінулых студэнтаў на перавале Дзятлава.

Многія персанажы серыяла – рэальныя людзі, і іх біяграфіі адноўлены з дакументальнай дакладнасцю. Выдуманымі з'яўляюцца галоўны герой, маёр КДБ **Алег Косцін**, а таксама Шуманава, Окунеў і персанажы са сцэн часоў Вялікай Айчыннай вайны.

## Сюжэт

У ноч з 1 на 2 лютага 1959 года ў ваколіцах гары Халатчахль на поўначы Свярдлоўскай вобласці загінула група з дзевяці студэнтаў пад кіраўніцтвам **Ігара Дзятлава**. За 16-18 дзён удзельнікі паходу, прысвечанага XXI з'езду КПСС, павінны былі пераадолець на лыжах не менш за 300 кіламетраў і здзейсніць узыходжанне на дзве вяршыні Паўночнага Урала: Атартэн і Айка-Чакур. Следчай групе на чале з маёрам КДБ Алегам Косціным трэба будзе разабрацца ў прычынах трагедыі.

Няцотныя серыі прысвечаны расследаванню, а цотныя апісваюць гісторыю паходу.

## Стварэнне серыяла

Упершыню аб стварэнні серыяла абвясцілі ў 2017 годзе, абяцалі выпусціць прэм'еру на тэлеканале «ТБ-3». Здымкі пілотнай серыі прайшлі на пачатку 2018 года ў Мурманскай вобласці – у Хібінскіх гарах і закінутым пасёлку Кастрычніцкі.

У 60-ю гадавіну трагедыі, 1 лютага 2019 года, «ТБ-3» прадставіў першы тызер серыяла. Здымкі серыяла працягнулі на Алтаі, завяршыліся восенню 2019 года.

У дзень прэм'еры, 16 лістапада 2020 года, быў запушчаны ўнікальны анлайн-сэрвіс, якія дазваляе карыстальніку самастойна расследаваць гібель групы Дзятлава. Праект аднаўляе апошнія 10 дзён з жыцця групы Дзятлава: ад збору рэчаў да пачатку турпаходу, ад самастойнага ўзыходжання да фінальнага пункта маршруту на перавале.

## Сусветная ўвага

У верасні 2019 года серыял быў прадстаўлены на фестывалях ў Таронта. Ён зацікавіў прадстаўнікоў кінафестываляў і анлайн-платформаў.

У лютым 2020 года кампанія Beta Film, у рамках Берлінскага міжнароднага кінафестывалю, набыла правы на міжнародны пракат серыяла.

У чэрвені 2020 года серыял быў прадстаўлены на міжнародным анлайн-фэстывалі расійскага аўдыявізуальнага кантэнту – там адбылася прэм'ера трэйлера праекта.

У верасні 2020 года праект быў прадстаўлены ў рамках агульнай прэзентацыі кінафестывалю ў Таронта. Сусветная прэм'ера серыяла павінна была адбыцца ў лістападзе 2020 года ў рамках асноўнай конкурснай праграмы Жэнеўскага кінафестывалю, аднак правядзенне фестывалю было адменена праз каранавірусную пандэмію.

Паглядзець серыял можна на тэлеканале ТНТ ці ў анлайн-кінатэатрах.

Падрыхтавала
**Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 30 НОЯБРЯ**

**7.00, 16.10, 18.20, 21.05, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.20** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 16.15, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 20.05** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** «Сад и огород».
**10.00** Мультфильмы «Дюймовочка».
**11.25, 16.45** Т/с **«НЕ ПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**13.00** Х/ф **«ЭКИАЖ».**
**15.25, 18.25** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**19.15** «Суперлото».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МАГИЯ ЗВЕРЯ».**
**23.10** Х/ф **«ДОКТОР НОУ».**

**ВТОРНИК, 1 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.55, 18.25, 21.05, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 16.00, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**9.00, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.45** Д/ф «ПРЕМУДРОСТИ ЛЕСНОЙ ЖИЗНИ».
**10.00** Мультфильмы «Зверополис».
**11.50, 16.50** Т/с **«НЕ ПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**13.20** Х/ф **«ДОКТОР НОУ».**
**15.10, 18.30** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**16.30** «Дети о еде».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПРИКУП».**
**0.05** Х/ф **«БЕРЛИНСКИЙ СИНДРОМ».**

**СРЕДА, 2 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.40, 18.45, 21.10, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 15.45, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 20.05** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.00** «Дети о еде».
**10.30, 15.50** Мультфильмы «Три богатыря и наследница престола».
**11.10, 17.15** Т/с **«НЕ ПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**12.40** Х/ф **«АПОЛЛОН-13».**
**15.00, 18.50** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**19.35** «Бьюти День».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЗАВОД».**
**23.05** Х/ф **«ЛЮДИ Х. АПОКАЛИПСИС».**

**ЧЕТВЕРГ, 3 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.40, 21.10, 0.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.50** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 15.45, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.15, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.00** Мультфильмы «Возвращение Джафара».
**10.10** «Готовь как шеф».
**11.30** Т/с **«НЕ ПРИДУМАННАЯ ИСТОРИЯ».**
**13.00** Х/ф **«ЗАВОД».**
**14.50** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**16.15** Т/с **«ЗАБЫТЫЙ».**
**18.00** «Фешн is my профешн».
**18.15** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**19.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«БАНДА».**

**ПЯТНИЦА, 4 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 15.50, 21.10, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** Д/ф «КТО В ТУМАНЕ ГУЛЯЕТ».
**10.05, 16.30** Т/с **«ЗАБЫТЫЙ».**
**11.50** Х/ф **«БАНДА».**
**14.50, 18.15** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**19.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ДА ПРИДЕТ СПАСИТЕЛЬ».**
**23.15** Х/ф **«ГЕНЕЗИС».**

**СУББОТА, 5 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 18.55, 21.10, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.45** «Приколы 13-й школы».
**8.50** Х/ф **«СИССИ».**
**10.35** «Дети о еде».
**11.00** Х/ф **«СИССИ. МОЛОДАЯ ИМПЕРАТРИЦА».**
**12.45** Х/ф **«ТРУДНЫЕ ГОДЫ ИМПЕРАТРИЦЫ».**
**14.40** «Погода».
**14.45** «Смотрим всей семьей». «Два брата».
**16.35** «Мульт-парад». «Далматинец».
**17.00** Х/ф **«ТОГО».**
**19.00** Х/ф **«НОЧЬ В МУЗЕЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.15** Х/ф **«АДМИРАЛ».**
**23.20** Х/ф **«ДАЛЬНЯЯ ДОРОГА».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 6 ДЕКАБРЯ**

**7.00, 14.05, 16.55, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Аисты».
**8.30** «Приколы 13-й школы».
**8.35** Х/ф **«КОТЕНОК».**
**10.00** Х/ф **«ТРИ БИЛБОРДА НА ГРАНИЦЕ».**
**12.00** Х/ф **«АЛАДДИН».**
**14.10** «Смотрим всей семьей». «Рапунцель. Дорога к мечте».
**15.05** Х/ф **«ВОСТОЧНЫЙ ВЕТЕР 4».**
**17.00** «Детектив на экране». «Занавес. Последнее дело Пуаро».
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.15** «Погода».
**19.20** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЛИНКОЛЬН ДЛЯ АДВОКАТА».**
**23.05** Х/ф **«МГЛА».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 30 НОЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**9.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**10.50** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**13.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.20** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.10** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ СЕРДЦЕ 2».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«СОНИК В КИНО».**
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 1 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Рядом со звездой.
**8.15** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**13.00** Х/ф **«2+1».**
**15.10** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**16.30** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 2 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**10.00** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**13.00** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**15.10** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.00, 22.15** Мажорный лад.
**19.15** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 3 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«УДИВИТЕЛЬНОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ ДОКТОРА ДУЛИТТЛА».**
**10.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**12.00** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**15.00** Х/ф **«КАМУФЛЯЖ И ШПИОНАЖ».**
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 4 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**9.40** Всё обо всем.
**11.40** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**13.45** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**15.35** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**16.50** Х/ф **«ХОЛОП».**
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 5 ДЕКАБРЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мастерство и вдохновение.
**13.00** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**14.50** Х/ф **«Я – МИЛЛИАРДЕР».**
**16.50** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ».**
**19.30** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 6 ДЕКАБРЯ**

**6.30** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.00** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**10.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**12.50** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**14.50** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**16.40** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**18.25** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ».**
**20.00** Х/ф **«БАБЛО».**
**21.30** Х/ф **«СОНИК В КИНО».**

## Беларусь 1

**6.20** Х/ф **«НОТЫ ЛЮБВИ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.20** Зона Х. Итоги недели.

**10.50** Т/с **«ВРЕМЕННО НЕДОСТУПЕН».**

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«СЧАСТЬЕ НАПОЛОВИНУ».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Вокруг планеты.

**15.55** Родные люди.

**16.15** Один день.

**16.45, 19.10** Х/ф **«ГОРОДСКАЯ РАПСОДИЯ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«МАТЬ ЗА СЫНА».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 18.00** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**9.50** Т/с **«СТИЧ!».**

**10.50** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**11.50** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНАЯ ВОЛЯ».**

**13.40** «Папа попал». Реалити-шоу.

**15.25** «Меняю жену». Реалити-шоу.

**17.05** Биатлон. Кубок мира. Гонка преследования. Женщины.

**18.35** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.20** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«НАВСЕГДА МОЯ ДЕВУШКА».**

**23.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.35** Навіны культуры.

**8.20** «Чудесный колокольчик». Мультфільм.

**8.40** «Чарнаморачка». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Грыбы лісіцы.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Будзьце маім мужам». Мастацкі фільм [СТ].

**13.15** «Народны майстар». Марына Вакульчык (шкрабанка).

**13.40** «Спявае Беларусь». Фальклорнае песеннае шоу.

**14.55** «12 крэслаў». Мастацкі фільм [СТ].

**17.30** «Дыскатэка СССР». Канцэрт «Жадаю табе».

**18.25** «Сын за бацьку...». Мастацкі фільм [СТ].

**19.50** «Кадры жыцця». Аператар, рэжысёр, пісьменнік Юрый Ялхоў.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Ганна Герман». Шматсерыйны мастацкі фільм, заключныя серыі.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.15** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.15** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.35** ОНТ представляет: «Народный повар».

**10.50** Х/ф **«ПРАВО НА НАДЕЖДУ».**

**12.45** «Видели видео?».

**15.00** К юбилею Нины Руслановой. «Гвоздь программы».

**16.20** Х/ф **«ВОРОШИЛОВСКИЙ СТРЕЛОК».**

**18.20** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Что? Где? Когда?». Зимняя серия игр.

**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.55** Х/ф **«Я ДУМАЛ, ТЫ БУДЕШЬ ВСЕГДА».**

## СТВ

**6.35, 0.30** «Странное дело».

**8.10** «Великие тайны».

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** Документальный проект.

**12.15, 13.40, 16.40** Т/с **«ВЛАДИМИРСКАЯ, 15».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.05** Документальный спецпроект.

**22.55** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**6.55** Х/ф **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«ЗНАХАРЬ».**

**12.45, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«СЕМЕЙНЫЙ АЛЬБОМ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** Элементариум.

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.35** «Дачный ответ».

**12.35** Истории спасения.

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ СОКРАТА».**

**16.20** «Следствие вели...».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.30** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Х/ф **«НЕЗАБЫТАЯ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.10** Х/ф **«ЖРЕБИЙ СУДЬБЫ».**

**14.40** Х/ф **«КРИВОЕ ЗЕРКАЛО ЛЮБВИ».**

**18.15** ПРЕМЬЕРА. «Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.35** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**22.40** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.15** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Остров проклятых. **7.20** Гномео и Джульетта. **8.45** Гостья. **10.50** Пробуждение. **13.00** Планета Ка-Пэкс. **15.10** Как приручить дракона 2. **17.00, 4.30** Хоббит: Нежданное путешествие. **20.00** Хоббит: Пустошь Смауга. **22.55** Хоббит: Битва пяти воинств. **1.20** Кинг Конг.

### TV1000 ACTION

**5.10** Робин Гуд. **7.35** Гладиатор. **10.15** Человек-паук. **12.15** Человек-паук 2. **14.30** Человек-Паук 3. **16.55** Хеллбой: Герой из пекла. **19.00** Хеллбой II: Золотая армия. **21.00** Хеллбой. **22.55** Хранители. **1.35** Мачете. **3.15** Мачете убивает.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.10** Одинокая женщина желает познакомиться. **7.45, 4.00** Няньки. **9.25** ПираМММида. **11.20** Трезвый водитель. **13.05** Кухня в Париже. **15.00** Кухня. Последняя битва. **17.05** Голоса большой страны. **19.00** Гудбай, Америка. **20.55** Дикая Лига. **23.00** Ночная смена. **0.40** Текст. **2.45** Временные трудности.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **10.00** «Новый день». **10.30** Х/ф **«ГОСТЬЯ». 13.00** Х/ф **«ИСХОДНЫЙ КОД». 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00** Т/с **«ФАНТОМ». 23.00** Х/ф **«МОРЕ СОБЛАЗНА». 1.15** Х/ф **«ЭФФЕКТ ЛАЗАРЯ». 2.45, 3.30, 4.15, 5.00** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПРОСТИТЬ НЕЛЬЗЯ РАССТАТЬСЯ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«АДМИРАЛ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«НА ПУТИ К СЕРДЦУ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ПЛАН Б». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПЛАЦЕНТА». 0.00, 1.00** Т/с **«ДВЕ СУДЬБЫ». 2.00, 3.00** Т/с **«ОСТРОВ НЕНУЖНЫХ ЛЮДЕЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.25** Х/ф **«РЫБКА ПО ИМЕНИ ВАНДА». 3.25** Х/ф **«ГОРЬКО В МЕКСИКЕ». 5.05** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ОРКЕСТР». 6.45** Х/ф **«СНОВА В ШКОЛУ». 8.40** Х/ф **«БОСИКОМ ПО ГОРОДУ». 10.20** Х/ф **«К ЧЕРТУ НА РОГА». 12.00** Х/ф **«МАРТОВСКИЕ КОТЫ». 13.50** Х/ф **«ТЫ УМЕЕШЬ ХРАНИТЬ СЕКРЕТЫ?». 15.40** Х/ф **«БОЛЬШОЙ КУШ». 17.40** Х/ф **«ДОМАШНЕЕ ВИДЕО». 19.30** Х/ф **«СКОЛЬКО У ТЕБЯ?». 21.30** Х/ф **«ЧЕТЫРЕ КОМНАТЫ». 23.20** Х/ф **«КОЛДУНЬЯ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40, 1.45, 2.35, 3.35, 4.35, 5.35, 6.30, 7.30, 8.20, 9.20, 10.20, 11.15** Т/с **«РОККО СКЬЯВОНЕ». 12.15, 13.10, 14.00, 14.55** Т/с **«ЛЕГЕНДЫ О КРУГЕ». 15.50, 17.50, 19.00, 20.00, 21.05, 22.05, 23.15** Т/с **«ФАРЦА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.35** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.05** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55** Х/ф **«ИНДЮКИ: НАЗАД В БУДУЩЕЕ». 14.40, 0.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.10** Х/ф **«ТАЙМЛЕСС. РУБИНОВАЯ КНИГА». 18.35** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК». 21.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **22.05** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **23.05** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **1.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **1.55** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Футбол. Чемпионат Англии. **8.50** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Эстафета. Женщины. **10.10** Гандбол. Чемпионат Европы. Женщины. Чехия – Россия. **11.45** Футбол. Кубок Беларуси. 1/8 финала. БАТЭ (Борисов) – Динамо (Брест). **13.35** Пит-стоп. **14.05** Игры «на вырост». **14.35** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Эстафета. Мужчины. **16.00, 17.50** Спорт-центр. **18.00** Футбол. Чемпионат Англии. 2-й тайм. **18.50** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Гонка преследования. Женщины. **19.25, 22.10** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **21.25** Итоги недели. **0.15** Гандбол. Чемпионат Европы. Женщины. Черногория – Дания.

### EUROSPORT

**1.35, 8.15, 18.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Нижний Тагил. HS 134. **2.30, 13.00, 19.45** Горные лыжи. Кубок мира. Санкт-Мориц. Женщины. Супергигант. **3.30, 10.30, 11.50** Горные лыжи. Кубок мира. Валь д'Изер. Мужчины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **4.15, 11.00, 14.45** Горные лыжи. Кубок мира. Валь д'Изер. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **5.00, 6.00, 9.00** Снукер. UK Championship. 1/2 финала. **7.00** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Мужчины. Гонка преследования. **7.30, 16.00** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Женщины. Эстафета. **17.00** Биатлон. Кубок мира. Контиолахти. Женщины. Гонка преследования. **20.45, 21.45** Снукер. UK Championship. Финал.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.35, 17.05** Металлоломщики. **7.20, 17.55** Советы юриста. **8.00, 10.30, 12.40, 16.45, 18.40, 23.10, 1.15, 3.50** Итоговые новости. **8.20** Сравнительный тест. **8.50** Тебе водить! **9.25** Комплектация. Эксклюзив. **9.55, 10.45** Всё включено. **10.15** Вторичка. **11.00, 16.40, 22.20, 3.25** Наезд! **11.10, 19.30, 22.30, 3.05** Работяги. **11.30, 19.50, 22.50** Проверка на дороге. **11.50, 20.10, 23.25, 4.05** Стальные парни. **13.00, 0.15** Испытание на прочность. **14.00, 1.35** Тест на «Драйве». **15.05** Эконом-тест. Эксклюзив. **15.20** Гаражная команда. **16.20, 22.05, 5.25** Авто: вторые руки. **18.55** Комплектация. **21.00, 5.00** Поездка выходного дня. **21.30** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **2.35** Сити тестер. **3.35** Дома на колесах. **4.50** Обновление.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.30, 9.20** Речные чудовища. **10.10, 10.40, 11.15, 11.50, 12.20, 12.50, 13.25, 13.55, 14.30, 14.55, 15.20, 15.50, 16.25, 16.55, 17.30, 18.00, 18.35, 19.05, 19.35, 20.05** Австралийские ловцы быков. **20.30** Австралийские золотоискатели. **21.15, 21.40, 22.05, 22.30, 22.55, 23.20, 23.45, 0.10, 0.35, 1.00, 1.25** Нефритовая лихорадка. **1.50, 2.35, 3.25, 4.15, 5.00** Дикая Монтана.

### HISTORY

**6.00** Родовые проклятья. **6.20, 7.10, 8.00** Тайны музеев. **8.50, 9.35, 12.20, 13.05, 18.15, 23.45, 0.30** Расшифровка тайн. **10.25, 11.20** Микромонстры с Дэвидом Аттенборо. **13.55, 14.45, 15.40, 16.30** Лондон: 2000 лет истории. **17.20, 4.40** Расшифрованные сокровища. **19.00** Древние небеса. **20.00** Операция «Золотая лихорадка». **21.00** Патагонские захоронения. **22.00** Титаник: истории из глубины. **22.50** Оружейники: искусство войны. **1.20, 2.10** Загадки Египта. **3.05, 3.50** Музейные тайны. **5.35** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.00** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **6.45** Дикий штат Карнатака, Индия. **7.40** Дикий Токио. **8.40, 9.30, 10.20, 11.10, 12.00, 19.50, 20.45** Загадочная планета. **12.55, 13.45, 14.40** Великая американская оттепель. **15.35, 16.25, 17.15, 18.10** Природа Америки: времена года. **19.00** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **21.35** Тайны великанов Ледникового периода. **22.25, 23.20** Выживание в дикой природе. **0.10** Невероятные встречи с животными. **1.00** Хищные питомцы. **1.50, 5.05** Мутации погоды. **2.35** Анатомия крупнейших животных. **3.25** Ветеринар из Йоркшира. **4.10** Уличный ветеринар. **4.40** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Сделать за один день. **6.20, 2.00, 2.50** Авто-SOS. **7.05** 80-е. **7.55** Панорама 360: Разрушение объектов всемирного наследия. **8.45, 9.35** Машины:Разобрать и продать. **10.30** Лаошань: Китайская святая гора. **11.35** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **12.30** Внутри невероятной механики. **13.20** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **14.05** Расследование авиакатастроф. **14.55, 15.45** Невероятные машины. **16.40, 17.30, 18.25** Дайан Фосси: Секреты в тумане. **19.15, 20.10** Секретные материалы древности. **21.00** «Аполлон: Лунная миссия». **22.40** Невероятное путешествие «Хаббла». **23.30, 0.25** Прорыв. **1.10** Осушить океан. **3.35** Национальные парки Америки. **4.25, 5.15** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 14.10, 18.05, 2.10** Экспедиции Андрея Старкова. **6.30, 10.35, 14.40, 19.55, 22.35, 2.40** Профессиональная рыболовная лига. **7.00, 11.05, 15.10, 23.05, 3.10** Мой мир – рыбалка. **7.30, 15.45, 23.35** Вкусные рецепты охотника. **8.00, 12.05, 16.15, 20.15, 0.05, 4.05** Рыбалка 360. **8.30, 12.35, 16.45, 20.45, 0.35, 4.35** Давай зарубимся! **8.45, 12.50, 0.50, 4.50** Популярная охота. **9.00, 13.05, 17.00, 1.10, 5.05** Рыбалка без границ. **9.35, 13.40, 17.35, 21.35, 1.40, 5.35** Мир рыболова. **11.35, 19.25, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **18.35** Люди дикого севера. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05** Охота и рыбалка.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.40, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Чай вдвоем. **6.45, 10.55, 14.55, 18.50, 22.45, 2.55** Флористика. **7.00** Огород круглый год. Лайфхаки. **7.30, 11.45, 15.40, 19.35, 23.35, 3.55** Усадьбы будущего. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 16.30, 20.25, 0.25, 4.35** Свечной заводик. **8.35, 12.45, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** С пылу с жару. **8.50, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **9.20, 3.40** Травовед. **9.35, 13.35, 17.30, 21.30, 1.25, 5.35** Моя крепость. **11.15, 15.10, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **13.00** Огород круглый год. **13.20** Огород круглый год. Зимние работы. **1.55** Наш румяный каравай.

# Два Куранцы, нязменны герб і фотаатэлье з балкончыкам

## Прапануем некалькі фактаў з гісторыі Вілейкі да яе магчымага 560-годдзя

ВІЛЕЙКА

**Пачатак 17 стагоддзя. Ніжні парк у Вілейцы. Гарадскі староста Пётр Пац праз акно летняй рэзідэнцыі глядзіць на раку. І калі чоўны або плыты падыходзяць да месца, дзе вада хавае вялікі камень, высоўваецца з акна і крычыць: «Вяляй! Вяляй!» – аб'язджай, значыць.**




Фота з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея.

Універсам у Вілейцы. На ганку стаялі апараты з газіраванай вадой. 1960-я гады.

Такую гісторыю днямі я пачула ў Вілейскім краязнаўчым музеі ад дырэктара **Надзеі Аўдзей**. Сёлета Вілейка адзначае юбілей – 560 год з дня заснавання. Таму музей прапануе сваім наведнікам і вось такія гісторыі, і выставу дакументаў і артэфактаў, прысвечаную мінуўшчыне горада. А мы прапануем факты, пра якія даведаліся на выставе.

### 16 лістапада 1460 года – дата першага згадвання Вілейкі ў дакуменце

Менавіта гэту дату лічаць датай першага ўпамінання Вілейкі ў пісьмовых крыніцах. А сведчыць дакумент пра тое, што адбыўся межавы суд паміж Віленскім біскупствам і князем Войцехам Манівідавічам.

### Было два Куранцы – на Вяллі і на Пелі

Адразу паселішча на месцы Вілейкі называлася Стар Куранец або велікакняжацкі Куранец на Вяллі. Паралельна побач існаваў Куранец на Пелі – прыватная ўласнасць.

### Ад 1613 года – Вілейка на старых картах

На картах ВКЛ Вілейка ўпершыню з'явілася ў 1613 годзе. Паселішча размяшчалася ў спрыяльным месцы – на правым беразе тады суднаходнай Віліі.

### У 1795 годзе атрымлівае статус горада

Статус горада, нададзены Кацярынай Другой, спрыяў развіццю мясцовасці. З'яўляецца план забудовы Вілейкі. Яго асаблівасць – прамавугольная планіроўка, якая захавалася і сёння. Гістарычны цэнтр горада быў прыкладна там, дзе сёння музей.

### Герб горада з'явіўся ў 1796 годзе і практычна не змяніўся

Геральдычны сімвал падараваны Вілейцы 22 студзеня 1796 года. Выглядае ён наступным чынам – «у чырвоным полі – сярэбраная рака, па ёй плыве судна з цюком тавараў і залатым коласам пасярэдзіне». Практычна ў такім выглядзе герб існуе і сёння.

### У Вілейцы раз на месяц ладзіліся «таргі»

Уласнікі горада мелі права ладзіць кірмашы. Так званыя «таргі» былі ў Вілейцы раз на месяц. Па словах Надзеі Аўдзей, людзі ішлі сюды не толькі, каб нешта набыць. На кірмашы даведваліся пра апошнія навіны.

### Сённяшняя Савецкая называлася «Ад царквы да двара»

На ўвазе меўся двор вілейскага старасты Пятра Паца, што месціўся ў Ніжнім парку. Менавіта пад гэтай назвай вуліца ўпершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах. У пачатку 20 стагоддзя дзякуючы яўрэям, якія жылі ў горадзе, вуліца вельмі ажывілася. Тут было шмат крамаў, кавярняў, цырульняў. Нажніцы, якія выкарыстоўваліся ў адным з тагачасных салонаў прыгажосці, вам пакажуць у музеі.

А яшчэ на вуліцы, якая пры Польшчы насіла імя Пілсудскага, месцілася фотаатэлье **Беркі Бермана** – будынак з балкончыкам, з якога было зручна здымаць горад.

### У 1937 годзе Вілейка стала малой Венецыяй

Вясной Вілія і Пляснянка разліліся так, што затапілі вуліцу Пілсудскага. Па ёй плавалі на лодках. Гэта падзея зафіксаваная на фотаздымках Беркі Бермана.

### Гарадскі староста і яго памочнік мелі адмысловыя нагрудныя знакі

Адзін з такіх знакаў на сметніцы знайшлі школьнікі, якія прыехалі ў Вілейку адпачываць да бабулі. Гулялі, заўважылі металічны прадмет. Адмылі, адчысцілі. Ён аказаўся нагрудным знакам памочніка вілейскага старасты, датаваным 1892 годам.

### У 1930-х у Вілейцы жыла заможная сям'я Курыловічаў

Муж працаваў адвакатам, жонка – у канторы. У фондах музея ёсць іх сямейны альбом. На фота – з густам апранутыя людзі. Гэта члены сям'і і іх сябры з розных гарадоў Беларусі. Вядома, што Курыловічы выехалі з Вілейкі. А альбом у музей перадалі іх родныя.

### Вілейскі парк прынцыпова не змяніўся за дзесяцігоддзі

Як адзначыла дырэктар музея, дрэвы, лавачкі, спуск да Віліі – усё гэта было ў парку 1930-х гадоў. Да сёння з тых часоў захаваліся тры бярозы, якія растуць побач.

### У 1930-х на Вілейшчыне адзначалі свята мора

– Часам падаецца, што праводзіць нейкія масавыя мерапрыемствы, святы, імпрэзы мы дадумаліся толькі цяпер. А ў Вілейцы і Даўгінаве людзі амаль сто год таму адзначалі свята мора, – расказала дырэктар музея.

У фондах музея ёсць фотаздымкі з гэтай падзеі. Вілейчукі прыходзілі на бераг Віліі, купаліся, ляпілі фігуры з пяску. У фондах ёсць фота вілейчукоў на фоне вялікага пясчанага кракадзіла.

### У 1960-1970-х гадах тут працавалі мастакі Іван Патапчук і Мікалай Уладыка

У 1960-х у Вілейку прыязджае мастак **Іван Патапчук**. Ён працуе настаўнікам рысавання ў школе-інтэрнаце. Рысуе партрэты вучняў, віды Вілейкі. Яго калега, **Мікалай Уладыка**, працуе ў вілейскім кінатэатры «Мір». Ён стварае там афішы.

### Колькі ж дакладна год Вілейцы

Сёння адлік гісторыі Вілейкі вядзецца ад лістапада 1460 года.

Хаця доўгі час датай першай згадкі пра Вілейку лічыўся 1567 год – дата, калі ў «Літоўскай метрыцы» ўпершыню ўпамінаецца мястэчка Куранец на Вяллі, або Куранец каралеўскі. Такую назву Вілейка мела да 17 стагоддзя. У 1617 годзе з'явілася новая назва – Вілейка.

– Аднак горад узнік не на пустым месцы, – кажа Надзея Аўдзей. – Ён заснаваны там, дзе ў 12 стагоддзі ўжо было сяло, а ў 14 – двор. Таму гаворачы пра дату нараджэння Вілейкі, варта гаварыць пра генезіс – працэс утварэння гэтага населенага пункта.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

**● КАЛЯНДАР**

**27 ЛІСТАПАДА**
**1920.** Пачатак Слуцкага паўстання.

**28 ЛІСТАПАДА**
**2018.** Будслаўскі фэст уключаны ЮНЕСКА ў спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.

**29 ЛІСТАПАДА**
**1939.** Вярхоўны Савет СССР выдаў пастанову аб наданні савецкага грамадзянства былым грамадзянам Польшчы.

**30 ЛІСТАПАДА**
**1874.** Нарадзіўся **Уінстан Чэрчыль**, брытанскі прэм'ер-міністр і пісьменнік.



**1899.** Нарадзіўся **Міхась Лынькоў**, народны пісьменнік Беларусі. Сям'я Лынькова, жонка Ханна Абрамаўна і сын Марык, была расстраляная немцамі ў верасні 1941-га ў Старадарожскім раёне. Разам з імі была расстраляная і сям'я брата Рыгора — жонка з дачкой. У 1946 годзе Янка Маўр напісаў апавяданне «Завошта?», у аснову якога лёг гэты трагічны факт.



**1993.** Урочышчу Курапаты ў Мінску нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці 1-й катэгорыі.

**1 СНЕЖНЯ**
**1887.** **Артур Конан Дойл** апублікаваў аповесць «Эцюд у барвовых адценнях», у якім упершыню з'явілася постаць Шэрлака Холмса.
**1920.** Ва ўніверсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні створаны Беларускі студэнцкі саюз.

**2 СНЕЖНЯ**
**1936.** Польскімі ўладамі забароненая дзейнасць Таварыства беларускай школы.

**3 СНЕЖНЯ**
**1918.** Рада і Урад беларускай Народнай Рэспублікі пакідаюць Мінск, выехаўшы ў Гродна.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Мінскі абласны суд адхіліў апеляцыю Пяскова і Еўсцігнеева

**20 лістапада ў Мінскім абласным судзе разглядалі апеляцыю па крымінальнай справе Паўла Пяскова і Уладзіслава Еўсцігнеева. Маладзечанцаў асудзілі за супраціўленне амапаўцам падчас ланцуга салідарнасці 19 чэрвеня. Пяскову далі 3,3 года, Еўсцігнееву – 3 гады.**



Пяскова і Еўсцігнеева не прывезлі на пасяджэнне.

Апеляцыю разглядала судовая калегія – **Дабрадзей**, **Міснік** і **Гурыновіч**. Паўла Пяскова і Уладзіслава Еўсцігнеева не прывезлі з жодзінскай турмы, дзе яны цяпер знаходзяцца, у Мінскі абласны суд.

**Пяскоў змог прысутнічаць на судзе праз відэасувязь. Еўсцігнеева родныя, якія прыехалі на суд, так і не ўбачылі.**

З прысудам нязгодны дзяржаўны абвінаваўца **Сяргей Габруковіч**. Згодна з яго пратэстам, не ўлічылі ў прысудзе Маладзечанскага суда парваную калашыну амапаўца Якавенкі. Гэта, па словах Габруковіча, адбылося з-за дзеянняў Пяскова. У Мінскім абласным судзе прысутнічаў іншы абвінаваўца.

**З прысудам таксама нязгодныя адвакаты Ігар Касцюк і Уладзіслаў Філіповіч.**

Адвакат Уладзіслава Еўсцігнеева Філіповіч расказаў, што не аспрэчвае вінаватасць Еўсцігнеева, але нязгодны з тым, што ён будзе адбываць пакаранне ў выпраўленчай калоніі. Філіповіч лічыць, што яго кліента пакаралі занадта строга, а хлопец выдатна характарызуецца з месцаў вучобы і працы, і ён даглядае маці з інваліднасцю.

– Ён дастойны член грамадства. Я не прашу яму дараваць, але павінны атрымаць іншае пакаранне, – сказаў Філіповіч.

**Адвакат кажа, што амапавец Баранаў ад дзеянняў Еўсцігнеева атрымаў лёгкія пашкоджанні, не страціў працаздольнасці і ў яго не было прэтэнзій да маладзечанца. Філіповіч прасіў змяніць від пакарання.**

Абаронца Паўла Пяскова Касцюк прасіў адмяніць прысуд для свайго кліента, таму што падчас сітуацыі яго дзеянні былі неабходныя. Адвакат прывёў статыстыку з мінулага лістапада па прысудах па артыкуле 363 Крымінальнага кодэкса (па гэтым артыкуле і асудзілі маладзечанцаў). Згодна са статыстыкай, ад мінулага лістапада суды разгледзелі 13 спраў па артыкуле: толькі трох чалавек адправілі ў калонію, астатнія атрымалі іншы від пакарання.

**– Не накіроўвалі ў выпраўленчую ўстанову чалавека, які абліў кіпенем міліцыянера, а пасля распыліў яму ў твар пярцовы балончык, – расказаў Касцюк.**

Касцюк спаслаўся на тое, што пры разглядзе справы ў маладзечанскім судзе сведчанні амапаўцаў не сышліся са сведчаннямі сведак, якія не мелі адносін да сілавых структур. Па меркаванні Касцюка, паказанні амапаўцаў па гэтай справе характарызуе момант затрымання і транспарціроўкі Міколы Алейніка: яны супярэчаць паказанням нават міліцыянераў Маладзечанскага РАУС.

Пра пратэст пракурора Габруковіча Касцюк выказаўся таксама:

– У гэтай частцы экспертыза не праводзілася. Ніхто не ведае, як канкрэтна і пад якім вуглом падаў Якавенка. Лічу, што гэта нічым не падмацаванае асабістае меркаванне дзяржаўнага абвінаваўцы.

**Касцюк адзначыў, што 19 чэрвеня Пяскоў проста зрэагаваў на барацьбу амапаўца Якавенкі і мужчыны па прозвішчы Непагода (ён знаходзіцца ў вышуку).**

Падчас папярэдняга следства Пяскоў расказаў, што бачыў, як сілавік прыціскае каленам каля шыі мужчыну.

**Тады Пяскоў палічыў, што мужчына, які аказаўся Уладзімірам Непагодам, мог атрымаць траўму, таму адцягнуў амапаўца.**

Адвакат Касцюк хадайнічаў аб праглядзе відэа сутычкі 19 чэрвеня. Адвакат Філіповіч падтрымаў калегу, пракурор таксама пагадзіўся.

**– Лічу, што трэба прагледзець відэа, каб пабачыць, як ілжэ дзяржаўны абвінаваўца Габруковіч, – падзяліўся Пяскоў меркаваннем наконт прагляду відэа.**

Судовая калегія Мінскага абласнога суда вырашыла пакінуць прысуд суда Маладзечанскага раёна па крымінальнай справе ў дачыненні да Паўла Пяскова і Уладзіслава Еўсцігнеева без змяненняў. Апеляцыйныя скаргі адвакатаў і пратэст пракурора не ўхвалілі.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Адзінаборца Аляксей Кудзін не з’явіўся ў маладзечанскі суд. Яго аб’явілі ў вышук

**19 лістапада ў маладзечанскім судзе павінна было адбыцца першае пасяджэнне па справе адзінаборца Аляксея Кудзіна, якога абвінавачваюць за супраціўленне супрацоўнікам органаў унутраных спраў.**



Аляксей Кудзін (злева, у кепцы і шортах) падчас акцыі пратэсту 10 жніўня.

### Хто такі Кудзін?

Аляксей Кудзін нарадзіўся ў Маладзечне. Цяпер яму 35 год. Ён займаецца адзінаборствамі. Выступае ў тайскім боксе, кікбоксінгу і змешаных баявых адзінаборствах у суперцяжкай вазе.

Кудзін з’яўляецца заслужаным майстрам спорту Беларусі, чэмпіёнам свету па тайскім боксе сярод аматараў (2006, 2007, 2008, 2011, 2014 гады), чэмпіёнам свету па кікбоксінгу сярод аматараў (2007, 2009 гады), чэмпіёнам свету па кікбоксінгу сярод прафесіяналаў (2007 год).

### У чым абвінавачваюць Кудзіна?

Аляксея Кудзіна абвінавачваюць па частцы 2 артыкула 363 Крымінальнага кодэкса – «Супраціўленне супрацоўніку органаў унутраных спраў або іншай асобе, якія ахоўваюць грамадскі парадак». Максімальная санкцыя па артыкуле – да пяці год пазбаўлення волі.

10 жніўня Аляксей Кудзін знаходзіўся на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне. Там праходзіла акцыя пратэсту. Сам Кудзін расказваў у інтэрв’ю «Матч ТВ», што ўдзел у акцыі не прымаў.

Пра затрыманне Кудзіна падчас акцыі стала вядома 12 жніўня ад баксёра **Дзяніса Ганчаронка**. Ён расказаў пра гэта ў сваёй сацыяльнай сетцы – цяпер гэты допіс недаступны.

13 жніўня «Трыбуна» даведалася ад знаёмага Кудзіна, які пажадаў даць каментарый ананімна, пра затрыманне маладзечанскага адзінаборца. Згодна з яго гісторыяй, падчас разгону Аляксей быў на плошчы, але яго не затрымалі – толькі пырснулі газам у твар і пабілі дубінкамі.

Сам Кудзін спачатку не дзяліўся дэталямі свайго затрымання. У інтэрв’ю «Матч ТВ» ён паведамляў, што супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС затрымалі яго каля 11 гадзін вечара. Пасля Аляксей расказваў, што сілавікі затрымалі яго каля бальніцы, а спачатку група захопу чакала яго дома.

12 жніўня Кудзіна перавезлі з маладзечанскага ІЧУ ў следчы ізалятар у жодзінскай турме.

16 жніўня рэсурс mlyn.by расказаў дэталі пра сутычку Кудзіна і супрацоўнікаў.

«Аказаў адпор вайскоўцу, які спрабаваў яго ўціхамірыць. Ад прыцэльнага ўдару ў галаву чалавек у форме страціў прытомнасць, пацярпелага шпіталізавала «хуткая дапамога». Вайскоўцу прыйшоў на дапамогу міліцыянер, які таксама знаходзіўся на плошчы. Баец нанёс яму ўдар у скіўцу, выбіўшы зуб».

Падчас разгону 10 жніўня на плошчы карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» бачылі, як адзін з вайскоўцаў ляжаў на зямлі, а пасля за ім прыехала «хуткая».

21 жніўня Кудзіну змянілі меру ўтрымання: яго вызвалілі з ізалятара ў Жодзіне, перавялі пад дамашні арышт у Маладзечна. У гэты ж дзень на Youtube-канале МУС з’явілася відэа з удзелам адзінаборца. У ім Аляксей Кудзін звяртаецца да жыхароў Маладзечна і Беларусі і да адзінаборцаў.

– Не жадаючы таго, я прычыніў цялесныя пашкоджанні супрацоўнікам органаў унутраных спраў.

24 жніўня спартыўнае агенцтва Аляксея Кудзіна Gagarin Sports Management апублікавала заяву спартсмена наконт яго затрымання. Кудзін падзяліўся, што ўсё ў Беларусі хутка закончыцца, а ён адналежыцца ад траўмаў, чакае новых баёў на арэне, а таксама падзякаваў за падтрымку.

8 кастрычніка суд Маладзечанскага раёна прызнаў Аляксея Кудзіна вінаватым у парушэнні артыкула 23.34 КаАП – удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве за акцыю пратэсту 10 жніўня. Адзінаборца атрымаў штраф.

### Як у судзе чакалі Кудзіна, а потым аб’явілі вышук

19 лістапада пасяджэнне павінна было пачацца ў 10 раніцы. На разбор прыйшлі два пацярпелыя, а Аляксей Кудзін у суд не з’явіўся. Дзяржаўны абвінаваўца **Алена Балоціна** сказала, што без абвінавачанага разбор працягваць немагчыма. Суддзя **Вольга Дубовік** пастанавіла прымусова даставіць Кудзіна пасля абеду.

Пасля дзвюх гадзін пасяджэнне прадоўжылася. Кудзіна ў судзе зноў не было. Суддзя Дубовік атрымала рапарт ад супрацоўніка Маладзечанскага РАУС. У ім міліцыянер напісаў, што прыехаў дадому да Аляксея Кудзіна, але яго там не знайшоў. Жонка Кудзіна **Таццяна** сказала, што раніцай муж паведаміў, што паедзе ў суд. Больш яна яго не бачыла, на тэлефон не адказвае.

Суддзя Дубовік змяніла меру ўтрымання з дамашняга арышту на заключэнне пад варту. Аляксея Кудзіна афіцыйна аб’явілі ў вышук.

Суддзя адзначыла, што Кудзіна (калі яго знойдуць) будуць утрымліваць у СІЗА ў Жодзіне. Пакуль крымінальная справа прыпыненая.

### Жонка засталася з пяццю дзецьмі

Жонка Аляксея Кудзіна пасля знікнення мужа засталася з пяццю дзецьмі: тры дзяўчынкі ва ўзросце 3, 7, 11 гадоў і двое хлопчыкаў – 9 і 17 гадоў. Цяпер жонка будзе выхоўваць дзяцей адна.

21 лістапада Таццяна дала вялікае інтэрв’ю пра затрыманне і жыццё Аляксея пад дамашнім арыштам. У ім яна расказала, што не была гатовая да таго, што муж знікне перад судом, але, па яе словах, гэты ўчынак разумее.

– Мы да апошняга чакалі, што ўсё будзе нармальна. А арышт пастаянна працягвалі, напэўна, каб дацягнуць да таго часу, калі з судамі зусім чарнуха пачалася. Прававога поля проста няма. Мужа спачатку судзілі па адміністрацыйным артыкуле – адвакат яшчэ здзіўлялася, як можна па адной справе два разы судзіць, – дзялілася Таццяна.

Жонка падзялілася гісторыяй затрымання Аляксея. Згодна з ёй, 10 жніўня Кудзін разам з сябрамі шпацыраваў па парку і плошчы. У гэты час сілавікі пачалі разганяць людзей. Таццяна не адмаўляе, што Кудзін тады быў сярод пратэстоўцаў.

– Калі ўсё пачалося, ён пачаў прыкрывацца рукамі, адбівацца. А пасля гэтага газу ён палову не памятае ўвогуле. Напэўна, нейкі нервова-паралітычны. Увогуле, ён атрымаў па галаве і пайшоў дадому.

Па словах Таццяны, калі Аляксей прыйшоў дадому, сеў у машыну і паехаў у бальніцу. Яго ванітавала, кружылася галава ад удараў дубінкай. Каля бальніцы яго падрэзаў бусік, на асфальт кінулі гранату. Кудзін паспеў заблакаваць машыну, сілавікі яе пачалі біць.

– У выніку ён сказаў: «Хлопцы, выходжу. Усё нармальна». Казаў, што хтосьці яго пазнаў – кагосьці ён трэніраваў, з кімсьці трэніраваўся. Ну і стрэлілі ў яго, у грудзіну. Распавядаў, што там налілася такая «булка», кавалкі мяса былі.

Калі Кудзін сядзеў у Жодзіне, яму сабралі грошы на залог – 500 базавых велічынь (13500 рублёў). Аднак Аляксея адпусцілі пад дамашні арышт без залогу, а гэтыя грошы адвакат параіла аддаць пацярпелым у якасці кампенсацыі. Па словах жонкі, яны так і зрабілі, узяўшы распіскі.

– Я ж не ў салодкіх умовах засталася: адна без мужа з пяццю дзецьмі. Не ведаю, што цяпер можа са мной быць. Я раней спакойна сябе адчувала, але цяпер не ведаю, што будзе і як. Можа, нейкія органы апекі будуць да мяне прыходзіць і глядзець. Не ведаю…

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Двух маладзечанцаў затрымалі пасля перакрыцця Вялікага Гасцінца. Іх абвінавачваюць па крымінальным артыкуле

**21 лістапада на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Багдана Хмяльніцкага людзі перакрылі рух, у іх руках была расцяжка з надпісам «Пока в стране беззаконие, сопротивление – наш долг». Маладзечанскі аддзел СК узбудзіў крымінальную справу.**




Момант перакрыцця Вялікага Гасцінца.

Па інфармацыі следства, праезную частку дарогі перакрылі на некалькі хвілін каля 10 гадзін.

Крымінальную справу распачалі па ч.1 арт.342 – арганізацыя групавых дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак і пацягнулі парушэнне работы транспарту. Па гэтай частцы прадугледжанае пакаранне – штраф, арышт, абмежаванне волі ці пазбаўленне волі на тэрмін да трох год.

Следчы камітэт паведаміў, што праз некалькі дзён затрымалі двух падазраваных 28 і 34 год. Цяпер праводзяцца следчыя дзеянні, шукаюць іншых удзельнікаў акцыі.

Па інфармацыі «Рэгіянальнай газеты», гэтымі затрыманымі мужчынамі з'яўляюцца маладзечанцы **Дзмітры Карабейнік** і **Рыгор Саладоўнікаў**.

МУС апублікавала відэаролік, у якім, верагодна, Дзмітры Карабейнік расказвае акалічнасці падзей 21 лістапада. Мужчына сказаў, што невядомыя ў інтэрнэце прапанавалі яму пастаяць з растяжкай на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Багдана Хмяльніцкага. Туды ён прыехаў адзін, а людзей, што стаялі разам з ім, не ведае і не пазнае, таму што яны былі ў капюшонах і масках.

– Людзі спыталі, хто можа паўдзельнічаць. У мяне быў вольны дзень, я вырашыў дапамагчы. Не пераследаваў ніякай выгады, – сказаў на камеру мужчына ў відэа МУС.

– **Як ацэньваеце свае дзеянні?**

– Глупства і самадурства.

**Аддзел інфармацыі.**

# У маладзечанца адбыўся ператрус. Яго затрымалі каля плошчы 9 жніўня

**23 лістапада прайшоў ператрус у маладзечанца, якога затрымалі 9 жніўня ў некалькіх сотнях метраў ад Цэнтральнай плошчы.**

### Ператрус

23 лістапада ў маладзечанца **Генадзя Альшэўскага** адбыўся ператрус. Яго праводзілі двое следчых Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта. Пастанову аб ператрусе падпісаў пракурор **Уладзімір Дубоўскі**.

– У пастанове была пазначаная дата 12 жніўня. Значыць, пастанову на ператрус у мяне падпісалі яшчэ некалькі месяцаў таму, – падзяліўся Генадзь.

Падчас ператрусу ў Альшэўскага нічога не забралі. Па яго словах, гэта другі раз, калі ён камунікаваў са следчымі пасля затрымання 9 жніўня. У верасні Генадзь хадзіў у маладзечанскі СК за мабільным тэлефонам, які ў яго забралі падчас жнівеньскага затрымання. Тады следчы дапытаў мужчыну наконт падзей 9 жніўня.

Верагодна, ператрус у Альшэўскага, аб чым ён паведаміў нашаму карэспандэнту, датычыцца дзвюх крымінальных спраў:

**Артыкул 342**: «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх».

**Артыкул 364**: «Гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў».

### Затрыманне і суткі ў Мар'інай Горцы

Увечары 9 жніўня Генадзь Альшэўскі адпачываў з сябрамі ў рэстаране «Еўропа». Яго затрымалі каля рэстарана, прывезлі на плошчу, а там перасадзілі ў іншы транспарт. Па словах мужчыны, ён у акцыі пратэсту не ўдзельнічаў.

Альшэўскі спрабаваў даведацца, чаму яго затрымалі. Як паведаміў Генадзь нашаму карэспандэнту, яго двойчы ўдарылі пасля спробы даведацца прычыну затрымання.

Затым яго прывезлі ў Маладзечанскі РАУС. Мужчына знаходзіўся ва ўнутраным дворыку аддзялення міліцыі.

– Праляжаў там дзесяці восем гадзін тварам у зямлю, – расказаў Генадзь.

У панядзелак, 10 жніўня, Генадзя перавезлі ў ізалятар у Мар'іну Горку. 12 жніўня там жа яго асудзілі па двух артыкулах – 23.34 (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве) і 23.4 (непадпарадкаванне). Суд пастанавіў пакараць Альшэўскага 14 суткамі арышту. Аднак ужо 13 жніўня яго адпусцілі.



Ачапленне сілавікоў на плошчы ўвечары 9 жніўня.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**




Максім Федаровіч прымае ўзнагароду ў намінацыі «Учынак года» акцыі «Асоба года» па выніках 2019 года.

Фота з архіва «РГ».

# Абіраем «Асобу года-2020»

**Гэты год стаў настолькі непрадказальным, што хочацца верыць: у новым годзе ўсё дакладна будзе лепш.**

Але ёсць людзі, якія зрабілі ў 2020 годзе яркія і патрэбныя рэчы. Мы лічым сваім абавязкам падзякаваць за іх працу.

**Традыцыйна мы ладзім акцыю «Асоба года», у якой вызначаем разам з чытачамі тых, хто найбольш адзначыўся ў розных галінах цягам года.**

Фармат акцыі такі. Мы прапануем герояў публікацый, пра якіх пісалі сёлета. Запрашаем чытачоў унесці свае прапановы, якімі імёнамі папоўніць спіс. Канчатковы спіс вывесім на сайце rh.by 11 снежня. Галасаванне за пераможцу намінацыі «Выбар чытачоў» будзе працаваць ад 11 да 28 снежня.

**29 снежня мы апублікуем вынікі акцыі.**

У межах акцыі пераможцу і тытул «Асоба года», а таксама пераможцаў у намінацыях «Учынак года» і «Натхненне года» абірае рэдакцыя. Па выніках галасавання на сайце rh.by чытачы вызначаюць пераможцаў намінацыі «Выбар чытачоў».

**Вы можаце даслаць прапанову сваёй кандыдатуры, якая будзе ўдзельнічаць у конкурсе, да 10 снежня. Дасылайце прапановы на адрас regionnews@rh.by.**

## Спіс прэтэндэнтаў на ўзнагароду «Асоба года-2020»

### Маладзечна

**Гурт PARTIZANY** – за музычную нястомнасць.

**«Адукацыйны цэнтр «Адкрытая прастора»** – за развіццё адукацыі.

**Андрэй Мікульчык** – за прасоўванне оперы ў Маладзечне.

**Ганна Сафонава** – за садзейнічанне экалогіі.

**Аляксандр Бажко** – за клопат пра псіхічнае здароўе.

**Ірына Тархан** – за нястомны актывізм.

**Дзмітры Асанаў** – за перамогі.

**Людміла Пашчук** – за сумленне.

**Аляксандр Грымаць** – за сумленную дэпутацкую працу.

**Канстанцін Чыкалаў** – за адданую валанцёрскую працу.

**Ірына Багамолава** – за захаванне гісторыі горада.

**Юры Крывенькі** – за адданае кіраўніцтва тэатрам.

### Вілейка

**Ларыса Якавюк** – за клопат аб экалогіі.

**Ігар Кіцікаў** – за нястомнасць.

**Вольга Шостак** – за грамадзянскую пазіцыю.

### Валожын

**Васіль Грынь** і іншыя гаспадары аграсядзіб – за дапамогу медыкам.

### Смаргонь

**Таццяна Васілеўская** – за творчае выхаванне дзяцей.

**Эдзіта Бранцэвіч** – за захаванне беларускай культуры для дзяцей.

**Алена Гіль** – за арганізацыю дапамогі медыкам.

### Астравец

**Аляксандр Дарашэвіч** – за экалагічную пільнасць.

### Мядзел

**Эдуард Вайцяховіч** – за прадпрымальніцтва падчас пандэміі.

### Ашмяны

**Аляксей Лукашэвіч** – за захаванне беларускай культуры ў Маскве.

## Пераможцы акцыі «Асоба года» ў розныя гады

У **2019** годзе ў конкурсе "Асоба года" пераможцам стаў спартсмен з Вілейкі **Іван Літвіновіч**. На кваліфікацыйных спаборніцтвах да Алімпійскіх гульняў у Токіа Літвіновіч у складзе беларускай зборнай атрымаў акрамя сярэбранага медаля спецыяльны прыз за лепшую тэхніку і алімпійскую ліцэнзію.

У намінацыі "Учынак года" пераможцамі сталі валанцёры **атрада «Анёл Паўночны Захад»**.

У намінацыі «Натхненне года» перамагла выхавальніца беларускамоўнай групы садка №8 у Смаргоні **Эдзіта Бранцэвіч**.

У намінацыі «Выбар чытачоў» перамагла **Ірына Тархан** за прасоўванне актывізму і згуртаванне супольнасці.

У **2018** годзе «Прыз глядацкіх сімпатый» узялі **Ганна Холад** і **Валянціна Сідоркіна**.

«Адкрыццё года» – **Алег Куралесаў**. «Натхненнем года» сталі **Іван Дурэйка** і **Міхаіл Міхалевіч**. «Учынак года» атрымаў калектыў Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

**2017** год. Асобамі года сталі **Алена і Ігар Крэйнісы** з Валожыншчыны, якія стварылі прытулак для жывёл. Узнагароду «Натхненне года» ўзяў мастак **Базіната**. «Учынак года» атрымаў **Аляксандр Дарашэвіч** з Астравеччыны, арганізатар прыборкі Сарачанскіх азёраў на Астравеччыне, падчас якой вывезлі 2 500 літраў смецця. У намінацыі «Прыз глядацкіх сімпатый» пераможцу выбіралі праз галасаванне. Першынство атрымала віляйчанка **Жанна Гардынец**.

**2016** год. Асобай года стала арганізатар «Жывой бібліятэкі» ў Маладзечне **Юлія Мароз**. Рэдакцыя вырашыла заснаваць дадаткова дзве намінацыі – «Натхненне года», якую атрымаў невідушчы спявак **Данік Савеня**, і «Учынак года», якім назвалі **Адама Мальдзіса**.

Асобай года **2015** стаў вілейскі краязнаўца **Дзяніс Канецкі**.

Асобай года **2014** стаў на той момант вучань 11 класа з Маладзечна **Уладзімір Грахоўскі**, які выратаваў дзіця.

**Аддзел інфармацыі.**

# «Маладзечна» згуляе за выхад у першую лігу з «Хімікам»

**ФК «Маладзечна» завяршыў выступленне ў другой лізе. Маладзечанскія футбалісты будуць вырашаць лёс наступнага сезона ў стыкавых гульнях.**



Маладзечанцы завяршылі сезон у другой лізе з бронзавымі медалямі.

Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

### Сезон з бронзавымі медалямі

Маладзечанскія футбалісты правялі чарговы сезон у другой лізе. У гэтым сезоне яны пад кіраўніцтвам **Сяргея Дараховіча** змаглі выйсці са сваёй групы ў фінальны этап, дзе змагаліся за выхад у другую лігу.

У першым этапе, дзе каманды вялі барацьбу за фінальны этап, у якім гулялі шэсць лепшых камандаў, ФК «Маладзечна» заняў першае месца. Маладзечанцы правялі 22 гульні і перамаглі ў 15 матчах.

У фінальным этапе сустрэліся шэсць камандаў – «Шахцёр» (Петрыкаў), «Баранавічы», «Асіповічы», «Стэнлес-ДЮСШ-3» (Пінск), «Дняпро-Магілёў» і «Маладзечна». Каманды згулялі па шэсць матчаў супраць адзін аднаго.

У першым туры фінальнага этапу маладзечанцы разграмілі «Асіповічы» – **5:3**. У наступным туры прайгралі петрыкаўскаму «Шахцёру» – **0:4**. У трэцім туры маладзечанскія футбалісты зноў прайгралі **0:4**, на гэты раз «Дняпру». У паўторнай гульні з «Асіповічамі» футбалісты Дараховіча перамаглі **3:0**.

У вырашальнай сустрэчы за выхад у першую лігу маладзечанцы гулялі супраць петрыкаўскага «Шахцёра». Маладзечанцы здолелі рэалізаваць толькі адзін момант у матчы: **Сяргей Дрозд** забіў у другім тайме. Гэтага было недастаткова для перамогі – петрыкаўскія футбалісты забілі ўжо два мячы (**Віталь Ганіч**, **Уладзімір Харланаў**).

Апошнюю гульню ў другой лізе футбольная каманда «Маладзечна» правяла з «Дняпром». Гэты матч ужо ніяк не ўплываў на палажэнне камандаў. Маладзечанцы ўзялі бронзавыя медалі другой лігі.

### Барацьба за першую лігу працягваецца

ФК «Маладзечна» яшчэ не страчвае шанец атрымаць пуцёўку ў першую лігу. Каманда Дараховіча можа гэта зрабіць толькі праз стыкавыя гульні са светлагорскім «Хімікам».

«Хімік» заняў апошняе месца ў першай лізе ў гэтым сезоне. Светлагорскія футбалісты перамаглі толькі ў двух матчах з 26 (4 нічые, 20 паражэнняў).

Стыкавыя гульні адбудуцца ўжо на гэтым тыдні. У суботу, 28 лістапада, «Хімік» прыме «Маладзечна» на сваім полі. А ўжо ў наступную суботу, 5 снежня, маладзечанцы згуляюць вырашальны матч на дамашняй пляцоўцы.

**Настасся УТКІНА.**

## Мінімальныя паражэнні «Ашмянаў» і «Смаргоні»

**У першай лізе завяршыўся апошні тур. Расказваем, на якіх месцах завяршылі яго каманды з рэгіёна.**


Кротаў з «Ашмянаў» падае вуглавы.

Фота прэс-службы ФК «Ашмяны-БДУФК».

### ФК «Смаргонь»

Смаргонцы сустракаліся з дзяржынскім «Арсеналам». Футбаліст «Арсенала» **Арцём Кійко** забіў у першым тайме, і гэты гол застаўся адзіным у гульні. Цяпер смаргонскія футбалісты знаходзяцца на шостым месцы ў турнірнай табліцы першай лігі – у іх 10 перамог, 10 паражэнняў і 6 нічыіх.

Галоўны трэнер «Смаргоні» **Вячаслаў Герашчанка** пасля матча з «Арсеналам» пракаментаваў гульню прэс-службе. Ён лічыць, што ў яго падапечных было дастаткова момантаў, але не атрымалася іх рэалізаваць.

Але па выніках двух колаў смаргонцы правялі нядрэнны сезон.

– Не магу яго назваць выдатным. Занялі 6-е месца. Пасля леташняга 14-га гэта даволі-такі вялікі скачок уверх. Нейкія глабальныя высновы зробім крыху пазней. Усё прааналізуем, разбяром. А так, на моцную «чацвёрку» я б ацаніў гэты сезон.

### ФК «Ашмяны-БДУФК»

У апошнім туры ашмянцы сустрэліся з НФК «Крумкачы». Каманды амаль згулялі ўнічыю, але напрыканцы другога тайма **Аляксандр Яцкевіч** з «Крумак» забіў пераможны гол. Ашмянцы нічым не адказалі. ФК «Ашмяны-БДУФК» завяршае сезон на дзясятым месцы — 6 перамог, 12 паражэнняў і 8 нічыіх.

Такім чынам, «Ашмяны» застаюцца ў першай лізе, дзе і згуляюць у наступным сезоне.

**Настасся УТКІНА.**

## Маладзечанскія хакеісты перамагаюць дома

**«Дынама-Маладзечна» правяло дзве апошнія гульні на дамашняй пляцоўцы. У выніку – дзве ўпэўненыя перамогі.**



Галоўны трэнер «Дынама» Канстанцін Кальцоў пасля перамогі над «Металургам».

Фота прэс-службы «Дынама-Маладзечна».

19 лістапада маладзечанцы сустрэліся з «Гомелем». У гэтым матчы дынамаўцы змаглі толькі аднойчы ўзяць вароты сапернікаў. **Аляксандр Сувораў** забіў шайбу ў першым перыядзе. Гульня завяршылася з лікам **1:0** на карысць маладзечанцаў.

21 лістапада дынамаўцы згулялі са жлобінскім «Металургам». Сустрэча аказалася не толькі з вялікай колькасцю галявых момантаў і забітых шайбаў, а са штрафамі ў дачыненні да гульцоў абедзвюх камандаў. Лік у гульні адкрыў дынамавец **Павел Дзянісаў**. Дубль у матчы зрабіў **Дзмітры Амбражэйчык**, забіўшы ў другім і трэцім перыядах. Маладзечанскіх заўзятараў на трыбунах засмуціў гол ад **Уладзіслава Сакалова** з «Металурга» ў другім перыядзе. Гульня скончылася з лікам **3:1** – маладзечанцы перамаглі.

Наступныя гульні «Дынама-Маладзечна» правядзе на выездзе ў Магілёве (27 лістапада) і Оршы (29 лістапада).

**Настасся УТКІНА.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Фарбаваць.
2. Сукупнасць прадметаў, з'яў, дзеянняў, уласцівасцей, якія складаюць адно цэлае.
4. Паўднёвая расліна з бязлістым мясіста-сакавітым сцяблом, укрытым калючкамі.
6. Асабістая назва чалавека.
7. Службовая асоба, якая ажыццяўляе нагляд і кантроль за правільнасцю дзеянняў падведамасных органаў і асоб.
11. Гэту каманду падае кожны гаспадар клавіятуры, калі хоча выдаліць лішняе. Але па-латыні слова «delete» мела больш ваяўнічую афарбоўку. Напішыце, якую.
12. Заканамерная паслядоўнасць гукаў, якая ўтварае адзінства.
14. Тып аркестра змешанага складу з перавагай духавых і ўдарных інструментаў.
15. Прастора, заслоненая ад сонца.
16. Сумны, тужлівы; журботны.
17. Металічны або драўляны стрыжань з вастрыём на канцы, прызначаны для змацавання.
19. Сіла, якая дзейнічае на адзінку плошчы перпендыкулярна да паверхні цела.
21. Нечаканы падарунак.
22. Футарал для пісталета або рэвальвера.
24. Урачыстае абяцанне, запэўненне.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Найбольшая велічыня, колькасць.
5. Пятрусь Броўка: Разумнаму слава – што крылы, а дурню – камень ці ...».
7. Манархічная дзяржава.
8. Вучоныя мяркуюць, што пад сучаснай Азіяй знаходзіцца старажытны акіян. Вадкасць за тысячагоддзі пераўтварылася ў мінерал брусід, формула якога $Mg(OH)2$. Да якой групы рэчываў адносіцца мінерал.
9. Сукупнасць звязаных паміж сабой дзеянняў, падзей, у якіх раскрываецца асноўны змест мастацкага твора і характары дзеючых асоб.
10. Гэтыя сацыяльныя будынкі ў ЗША з'яўляюцца аднымі з самых пражэрлівых па спажыванні электраэнергіі.
13. Снарад з выбуховым рэчывам, які закладваецца ў зямлю, пад ваду.
14. У гэтай краіне ёсць незвычайны лес. Дрэвы ў ім па незразумелай прычыне выглядаюць перакручанымі і выгнутымі, а само месца называюць «Лес троляў».
15. Нешырокі струмень вады, вадкасці.
16. Прадпрыемства, на якім мелюць збожжа; будынак з устаноўленымі ў ім прыстасаваннямі для размолу збожжа.
17. Заканамернае, рэгулярнае кола з'яў, дзеянняў, працэсаў.
18. Мора, у якое не ўпадае ні адна рака.
20. Моцная гарачыня ў паветры, нагрэтым сонцам.
21. Пругкая нітка ў музычных інструментах, якая пры вібрацыі звініць.
23. Невялікае, звычайна закрытае памяшканне спецыяльнага прызначэння (напрыклад, для пілота ў самалёце, вадзіцеля ў аўтамабілі, тэлефонных размоў).

## Адказы на крыжаванку з №47

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Эксперт. 5. Дзіва. 6. Экстаз. 8. Маштаб. 10. Кубертэн. 11. Дата. 12. Брэх. 15. Медаль. 17. Ярус. 18. Дзеці. 20. Бусел. 21. Гагарын. 22. Карамзін. 24. Забастоўка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Зельнік. 2. Млосна. 4. Бочка. 5. Допіс. 7. Трымцець. 9. Будынак. 13. Тэхас. 14. Тузін. 16. Механіка. 17. Яна. 19. Тупік. 20. Бойка. 23. Тытул. 25. Мінус. 26. Трэска.

## ● ГАРАСКОП НА 27 ЛІСТАПАДА – 3 СНЕЖНЯ


**АВЕН.** Беражыце нервовую сістэму. Пастарайцеся пазбягаць празмерных эмоцый – як пазітыўных, так і негатыўных. Не спрачайцеся і не скандальце. Пастарайцеся менш напружвацца і менш працаваць.


**ЦЯЛЕЦ.** Паспрабуйце адшукаць у сабе задаткі дэтэктыва і разабрацца з праблемнымі сітуацыямі, што паўстануць на вашым шляху. Трэба слухаць больш, чым гаварыць, шукаць сувязі там, дзе іх на першы погляд няма.


**БЛІЗНЯТЫ.** У гэты перыяд вам будзе спрыяць інтуіцыя, каб вы дазналіся сутнасць рашэнняў і важных падзей. Пусціце гэты талент на працу, а не асабістае жыццё.


**РАК.** Вам захочацца кантраляваць усіх і ўсё. Не расстройвайцеся, што некаторыя сітуацыі пойдуць не па плане. Зоркі раяць больш часу праводзіць з праверанымі партнёрамі.


**ЛЕЎ.** Неістотныя справы адкладзіце або ўвогуле выкрасліце. Што вам сапраўды цяпер трэба – адпачынак. Бурлівы паток можа збіць вас у кірунак, які вам не трэба.


**ДЗЕВА.** У вас атрымаецца зрабіць так, што ўсе мінусыператворацца ў плюсы. І атрымаецца гэта неяк само сабой. Вы будзеце прыцягваць увагу патрэбных людзей.


**ШАЛІ.** Не варта зацыклівацца на адной справе. Пастарайцеся быць больш актыўнымі і хутчэй спраўляцца з задачамі. Магчымае раптоўнае спатканне.


**СКАРПІЁН.** Вы будзеце выглядаць максімальна шчаслівым чалавекам, і адчуваць сябе гэтак жа. Рэч у тым, што вы зразумееце: усё, што трэба для шчасця, разам з вамі.


**СТРАЛЕЦ.** Вас чакае раптоўнае запрашэнне, якое можа тычыцца як працы, так і асабістага жыцця. Будзьце ўважлівыя. Гэтыя дні — дакладна не з тых, калі можна давяраць першаму ўражанню, казаць усё, што прыходзіць у галаву, і ісці на смелыя эксперыменты, не раздумваючы пра тое, які вынік яны могуць даць.


**КАЗЯРОГ.** Вы будзеце супраціўляцца пераменам, але яны не будуць пытацца дазволу і прыйдуць у ваша жыццё. Лепшым рашэннем стане навучыцца жыць разам з імі.


**ВАДАЛЕЙ.** Вам будзе не хапаць адпачынку. Не саромейцеся прасіць дапамогі і падтрымкі, зусім неабавязкова браць усё на сябе. І пазбягайце спешкі там, дзе гаворка ідзе пра рэчы, важныя не толькі для вас. Патрэбны час, каб разабрацца ў сітуацыі, прыслухацца да падказак інтуіцыі.


**РЫБЫ.** Няўпэўненасць у сабе паставіць пад удар і кар'еру, і адносіны з іншымі людзьмі. Пастарайцеся трымаць аптымістычны настрой і фізічную форму. І моцна не перажывайце. Бо не заўсёды для перажыванняў ёсць сур'ёзныя прычыны, часам вы проста занадта востра рэагуеце на дробязі, нервуецеся з-за таго, чаго ў іншы час проста не заўважылі б.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | 3 | 9 | | | |
| | | | 7 | 5 | 6 | | | |
| | | 6 | 1 | 2 | | | | 9 |
| 8 | | | | | 7 | | 6 | |
| 4 | | | | | 2 | | 3 | |
| | 1 | | | | 8 | 5 | | |
| 9 | | | | 4 | | 7 | | |
| | 4 | | | 7 | 3 | | | 5 |
| | | | 6 | | | | 9 | 3 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by



## На выставе «Прадэкспа» вілейчукі частавалі гасцей блінамі

ВІЛЕЙКА

**На рэспубліканскай выставе «Прадэкспа» навучэнцы і майстры вытворчага навучання Вілейскага дзяржаўнага каледжа пяклі бліны і частавалі імі гасцей.**



Злева направа: майстар Алена Фірс, навучэнцы Надзея Уладыка і Яраслаў Бабарыка, майстар Наталля Сянько.

Фота забяспечана Вілейскім дзяржаўным каледжам.

Толькі што спечаныя бліны навучэнцы групы повараў **Яраслаў Бабарыка** і **Надзея Уладыка** начынялі ікрой, мёдам, варэннем, падавалі і са смятанай. Працэсам кіравалі майстры вытворчага навучання **Наталля Сянько** і **Алена Фірс**.

Майстры адзначылі, што наведванне выставы было карысным з прафесійнага пункту гледжання. Разам з навучэнцамі яны ўбачылі кандытарскія і хлебабулачныя вырабы на выставе «Смакота-2020», наведалі міжнародны хлебны салон.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Чаму Расіі нявыгадная шматвектарная палітыка Беларусі і які шлях больш выгадны для беларусаў, чытайце праз тыдзень.**

## 28 лістапада, субота

**Вецер:** паўночны, 4-6 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -13,6°С у 1989 годзе
Максімальная тэмпература +7,1°С у 1960 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,9 мм у 1983 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якой вы бачыце Беларусь праз пяць гадоў?

**Ягор:**
– Нармальнай краінай. Цяпер ёсць кепскія моманты, але спадзяюся, што будзе ўсё добра.



**Рыта:**
– Спадзяюся, што не такой, як сёння. Хачу бачыць яе больш ветлівай і больш сяброўскай да адзін аднаго.



**Ларыса:**
– Хачу бачыць Беларусь свабоднай, добрай, мірнай краінай. Хочацца, каб наладзілася эканоміка, каб жыццё стала добрым і спакойным.



**Міхаіл:**
– Тут нават складана сказаць, якая яна праз год будзе. Праз пяць гадоў, спадзяюся, што яна не будзе такой, як зараз. Трэба шмат чаго змяніць, улада павінна змяняцца, не павінна быць так, што ў Маладзечне няма ніводнага завода.



**Ала:**
– Бачу яе светлай, прыгожай і добрай краінай. Самае галоўнае, каб людзі былі згодныя з усім і каб любілі сваю радзіму. Каб не рабілі ўсякай шкоды для іншых людзей.



**Вера:**
– Квітнеючай і не горшай за цяперашні яе стан. А не такой, як сёння, паглядзіце, што робіцца на вуліцах і ўсюды... бязмежжа.



**Ірына:**
– Добрай, паспяховай і спакойнай.

**Падрыхтаваў Аляксей КАСТОЎСКІ.**



Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№48 (1335) 27.11.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1974. Падпісана ў друк у 9.00 26.11.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.